Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ. Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 6 (4909) 10 лютага 2017 г.



## ДЗЕЛЯ ДУХОЎНАЙ СПАДЧЫНЫ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час».

«Літаратура адыгрывае выключную ролю ў вырашэнні агульнанацыянальных задач, захаванні духоўнай спадчыны, актывізацыі дыялогу культур, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. — Ваш маштабны форум служыць аўтарытэтнай пляцоўкай для абмену ідэямі, прымае шматлікіх гасцей з блізкага і далёкага замежжа». Прэзідэнт лічыць глыбока сімвалічным, што дзякуючы выстаўцы тэма 500-годдзя ўсходнеславянскага кнігадрукавання набывае шырокае міжнароднае гучанне. Менавіта наш зямляк Францыск Скарына пяць стагоддзяў таму выдаў «Псалтыр» на старабеларускай мове, распачаўшы гісторыю айчыннай кнігі. Аляксандр Лукашэнка выказаў упэўненасць, што мерапрыемства паслужыць развіццю друкаванага слова і ўзбагачэнню нацыянальнай літаратурнай традыцыі.




Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў (справа), міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Карпенка падчас адкрыцця выстаўкі-кірмашу.



Фота Яўгена Пясецкага.

Захапляльнае чытво для самых маленькіх удзельнікаў выстаўкі-кірмашу.

# 500 гадоў і пяць дзён

**Ні дня без радка, надрукаванага. Кнігавыданне — бесперапынная вытворчасць. І нават калі друкаваная тэхніка адпачывае, працуюць творцы, шукаюць сэнс, фармулююць яго ў словах.**

*«Для кагосьці кніга — гэта падручнік, для кагосьці — прадмет інтэр'еру, але самае галоўнае, што ва ўсе часы і ва ўсе стагоддзі кніга — самы вялікі памочнік у жыцці», — адзначыў першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Максім Рыжанкоў на адкрыцці Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу. Памочнік у жыцці асобных людзей ці творцаў, якія, паводле старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца, з хваляваннем чакалі сустрэч з чытачамі. Але кніга — памочнік і ў жыцці краін. Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч падкрэсліла, што пасланцы сферы кнігавыдання, гуманітарнага супрацоўніцтва розных дзяржаў робяць свой унёсак у развіццё дружбы, добрасуседства: «Важна, што менавіта адсюль пачынаецца святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Розгалас гэтага свята панясуць нашы сучасныя кнігавыдаўцы па розных краінах. З дапамогай кнігі мы будзем гаварыць пра тое, што слова аб'ядноўвае, што слова мае вялікую сілу, гэта наш духоўны запавет нашчадкам»...*

Сталыя наведнікі кніжнай выстаўкі, пэўна, даўно заўважылі: кніжная — гэта толькі фармальнае азначэнне. Насамрэч, кожная краіна-ўдзельніца прэзентуе не столькі свой кніжны рынак, колькі сябе самую. Адсюль — процьма сувенірнай прадукцыі, партрэты знакавых асоб (не толькі пісьменнікаў), нацыянальная сімволіка.

Для кніжнай Беларусі 2017 год — надзвычай адказны: 500-годдзе кнігадрукавання. Таму Францыск Скарына фігуруе на цэнтральным беларускім стэндзе ў самых розных абліччах. У кожнага выдавецтва ёсць кнігі, прысвечаныя першадрукару ці гісторыі нашага пісьменства. Твар Скарыны — на календарах, паштоўках, сувенірных магнітах і іншай падобнай прадукцыі. Асобнае месца адведзенае пад друкавальны станок: яго ўзнаўлялі па чарцяжах XVI стагоддзя, так што можна лічыць, што такім жа карыстаўся наш першадрукар. Вакол станка — копіі старонак скарынаўскіх выданняў. Жыццё Скарыны, праца Скарыны, Скарына для дзяцей, Скарына для навукоўцаў, спадчына Скарыны…

Працяг на стар. 2

## Пункцірам

✔Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста БССР Віктара Саркісьяна з 70-годдзем. «З Вашым імем звязаны буйныя дасягненні нацыянальнай харэаграфічнай школы. Створаныя Вамі яркія вобразы ўвайшлі ў залаты фонд беларускага балета, садзейнічалі ўмацаванню яго высокага аўтарытэту ў сусветнай культурнай прасторы», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сёння Віктар Саркісьян паспяхова перадае свой багаты досвед таленавітай моладзі, якая годна працягвае лепшыя творчыя традыцыі.

✔ У Беларусі пачаў дзейнічаць Кодэкс аб культуры. Сімвалічна, што ён быў прыняты падчас аб'яўленага ў нашай краіне Года культуры. Такога кшталту дакумент распрацаваны ўпершыню і не мае аналагаў на постсавецкай прасторы. Кодэкс аб'яднаў каля 60 нарматыўных прававых актаў рознай юрыдычнай сілы, з іх 7 законаў, 4 указы Прэзідэнта Беларусі, каля 20 пастаноў урада і каля 30 нарматыўных прававых актаў Мінкультуры. Кодэксам прадугледжаны адзіны механізм рэгулявання адносін у сферы культуры і адначасовае выкараненне недахопаў прававога рэгулявання.

✔ Рэйтынгі даверу нацыянальным сродкам масавай інфармацыі захоўваюцца ў Беларусі, і яны значна вышэйшыя, чым расійскім, замежным, паведаміла журналістам міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падчас калегіі Мінінфарма па выніках 2016 года і асноўных задачах на 2017-ы. Міністэрства грунтоўна займаецца маніторынгам інфармацыйнай прасторы. Гэта пытанне па просьбе ведамства кантралюе Цэнтр сацыялагічных і палітычных даследаванняў БДУ. Даследаванні сведчаць, што грамадзяне Беларусі ў атрыманні інфармацыі аддаюць перавагу нацыянальным СМІ.

✔ Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі можа быць прысвоена імя Францыска Скарыны. Паводле намесніка міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіля Чэрніка, Міністэрства культуры і Нацыянальная бібліятэка падтрымліваюць гэтую ініцыятыву з боку грамадскіх аб'яднанняў, Беларускага фонду культуры, грамадскай наглядальнай камісіі пры Міністэрстве культуры па пытаннях аховы гісторыка-культурнай спадчыны.

✔ Белавежская пушча ўвайшла ў топ-25 турыстычных напрамкаў Усходняй Еўропы. Рэйтынг вядатных мясцін, якія абавязкова трэба наведаць, апублікавала аўтарытэтнае брытанскае выданне *The Telegraph*. Разам з Талінам, Рыгай, Санкт-Пецярбургам і іншымі турыстычнымі напрамкамі спіс топавых мясцін папоўніў і беларускі нацыянальны парк, які заняў 18-ю пазыцыю.

✔Вечар памяці народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча пройдзе сёння на сцэне Вялікай залы Палаца Рэспублікі. Прагучаць песні, якія назаўсёды засталіся ў сэрцах адданых прыхільнікаў. Вялікаму артысту, блізкаму сябру, роднаму чалавеку свае выступленні прысвецяць Прэзідэнцкі аркестр Беларусі, вакальная група «Чысты голас», Алёна Ланская, Ірына Дарафеева, Леанід Шырын, Тэа, Вольга Рыжыкава, Іна Афанасьева, Дзмітрый Калдун, Аляксандр Саладуха і многія іншыя.

# 500 гадоў і пяць дзён



*Друкавальны станок, якім, магчыма, карыстаўся Францыск Скарына.*

І вось «Кнігі Рэспублікі Беларусь». Гэта не назавеш стэндам: то цэлае каралеўства, сабранае з дзяржаўных выдавецтваў, Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, Кніжнай палаты Беларусі, гандлёвай сеткі «Белкніга» ды бібліятэчкі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Нельга не адзначыць, што найбольш увагі надаецца ўласна кнігадрукаванню, аздабленню кнігі. Дарэчы, ёсць і асобная экспазіцыя, прысвечаная прэміі «Мастацтва кнігі», дзе можна ўбачыць густоўнае выданне «Тутэйшы. Асобы. Рэчы. Дызайн» (пераможца ў намінацыі «Існасць рэчаў»). Таксама — дзіцячую кнігу Алеся Пісьмянкова «Чаму вожык не стрыжэцца». Ілюстрацыі да яе выклікалі спрэчкі. Вось нагода для дыскусіі пра тое, што ж такое дзіцячая ілюстрацыя — карцінкі да тэксту ці ўсё ж паўнавартаснае мастацтва, вольная пляцоўка для ілюстратара.

Так, у аснове канцэпцыі не сучасны аўтар, але найбагацейшыя выданні апошняга часу (зрэшты, чаго й чакаць: гэта выстаўка кніжная — не мастацка-літаратурная). Унікальную ролю тут грае Нацыянальная бібліятэка Беларусі, якая не абмежавалася нашым векам і рызыкнула выставіць скарбы даўніны: дзе яшчэ пабачыш арыгінальную кнігу Сімяона Полацкага «Посах кіравання» 1667 года выдання?.. Слаўнае мінулае нашага кнігадрукавання прадстаўляюць таксама факсіміле — «Слуцкае Евангелле» 1582 года, «Баркалабаўскі летапіс», «Кніга быцця» з серыі «Кніжная спадчына Францыска Скарыны». Тут жа можна пабачыць арыгінальныя выданні паэмы «Сымонмузыка» Якуба Коласа (1925 год), зборнік «Шляхам жыцця» Янкі Купалы (1913 год), «Калядную пісанку» 1913 года.

Сёлетнія пісьменнікі-юбіляры адзначаныя асобнай кампазіцыяй, што ўхвальна. Ёсць Колас, Купала, Панчанка і Брыль… А як жа астатнія: Міхась Стральцоў на літаратуразнаўчых «вагах» пацягне не менш за Коласа, Алесь Пісьмянкоў, тонкі, адметны лірык?..

Дзяржаўныя выдавецтвы — асноўныя «пастаўшчыкі» літаратуры на кніжны рынак. Іх прадстаўляюць Выдавецкі дом «Звязда», «Народная асвета», «Вышэйшая школа», «Беларуская навука», Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі, «Мастацкая літаратура», «Беларусь», «Чатыры чвэрці». У кожнага — свая фішка. Так, прыкладам, «Звязда» збольшага вядомая дзіцячай літаратурай. «БелЭн» — стваральнік якасных грунтоўных энцыклапедый: «Беларускае народнае ганчарства», «Смачна есці! Энцыклапедыя беларускай кухні», «Мінералы і карысныя выкапні Беларусі» — на любы густ, для самай шырокай аўдыторыі.

Твар выдавецтва «Беларусь» — мініальбомы з рэпрадукцыямі беларускіх мастакоў: Філіповіч, Рушчыц, Гараўскі, Кашкурэвіч, Астаповіч, Драздовіч... «Мастацкая літаратура», займеўшы новых мастакоў-ілюстратараў, стала адметнай і пазнавальнай. У яе скарбніцы — кнігі серыі ЖЗЛБ, сучасная мастацкая літаратура (трэба адпавядаць назве, ці так?), альманах маладых аўтараў «Першацвет». «Чатыры Чвэрці» — гэта, найперш, серыя «Маладая паэзія Беларусі». «Вышэйшая школа» пайшла далей: прапануе паслухаць класіку — аўдыякнігі Крапівы, Караткевіча, Коласа, Брыля, Мележа, Маўра.

Цэнтральная экспазіцыя прадстаўнічая, але каб атрымаць поўнае ўяўленне пра беларускую кнігу, варта заглыбіцца ў «правінцыйныя» зоны выстаўкі. Тут — невялічкі пакой «Галіяфаў», якія робяць вялікі ўнёсак у сучасную беларускую літаратуру. Сёлетні іх «цвік праграмы» — казка Кэрала «Скрозь люстра, і Што ўбачыла там Аліса», перакладзеная Верай Бурлак. «Тэхналогія» — выдавец неверагодна прыгожай кнігі «Айчына. Ад Рагнеды да Касцюшкі», якую нам падараваў магутны творчы дуэт мастака Паўла Татарнікава і пісьменніка Уладзіміра Арлова. Варты наведвання стэнд выдавецтва «Янушкевіч», вядомага сваімі электроннымі кнігамі і выданнямі рамана «Дагератып» Людмілы Рублеўскай, казак Вільгельма Гауфа «Карлік Нос», перакладам «Голада» Кнута Гамсуна.

Але калі вяртацца да галоўнай тэмы, то, перастварыўшы ў верлібры прадмовы Скарыны, паэт Алесь Разанаў назваў кнігі, выдадзенай «Мастацкай літаратурай», нагадвае: «Маем найбольшае самі».

**Наста ГРЫШЧУК**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**13 лютага** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**13 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтамі Міхасём Пазняковым і Мікалаем Івановым у Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча (вул. М. Багдановіча, 29). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**14 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтамі ў Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (пр-т Пераможцаў, 8). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**14 лютага** — *у літаратурную студыю «Слова» пры публічнай бібліятэцы № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Кіраўнік — паэтэса Ганна Кашуба. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**14 лютага** — *на творчы вечар паэтэсы Ганны Васільевай «Словы кахання» ў публічную бібліятэку № 7 імя Якуба Коласа (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**15 лютага** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчы вечар паэта, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны Мікалая Іванова «Сын Беларусі і Расіі». Пачатак а 16-й гадзіне.*

**15 лютага** — *на пасяджэнне літаратурнай студыі «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Кіраўнік — паэтэса Іна Фралова. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**15 лютага** — *на паэтычнае спатканне «Дуэт: сугучча радка» з удзелам Яны Явіч і Дзмітрыя Юртаева ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 лютага** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на паэтычнае свята «Мелодыя жывога слова», прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы, з удзелам паэтэсы Вольгі Норыпай і яе вучняў. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**16 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Ксеніяй Шаржановіч і пісьменнікам Леанідам Багдановічам у публічную бібліятэку № 3 (вул. Сяліцкага, 103). Пачатак у 14.30.*

**16 лютага** — *на заключны адборачны тур творчага конкурсу чытальнікаў паэзіі Беларусі ў Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, Мемарыяльная зала). Пачатак а 16-й гадзіне.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**10 лютага** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Галінай Бабарыка ў Харомскую сярэднюю школу (Столінскі раён, в. Харомск, вул. Школьная, 1). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**14 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтам і журналістам Георгіем Тамашэвічам у СШ № 6 г. Брэста (вул. Панфілаўцаў, 22). Пачатак а 12-ай гадзіне.*

**16 лютага** *на юбілейны творчы вечар івацэвіцкага пісьменніка-гумарыста Віктара Рэчыца «Паўцарства за ўсмех» у гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна (бульвар Шаўчэнкі, 3). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**16 — 17 лютага** — *на шостыя гісторыка-філалагічныя чытанні памяці педагога, гісторыка, перакладчыка, лінгвіста Н. П. Анцукевіча ў гімназію г. Лунінца (вуліца Чапаева, 54). 16 лютага — пачатак а 12-й гадзіне, 17 лютага — пачатак а 10-й гадзіне.*

**16 лютага** — *на прэзентацыю студэнцкага літаратурнага альманаха «И физики, и лирики» (12-ы выпуск) у Брэсцкі тэхнічны ўніверсітэт (канферэнцзала, 1-ы корпус, вул. Маскоўская, 267). Пачатак у 11.30*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**11 лютага** — *на сустрэчу з паэтэсай Людмілай Шаўчэнка ў СШ № 36 г. Гродна з польскай мовай навучання (вул. Курчатава, 43). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**11 лютага** — *на прэзентацыю кнігі паэта Віктара Кудлачова «Здравствуй, Гродно!» у Гродзенскую гімназію № 1 імя акадэміка Я. Ф. Карскага (пр-т Я. Купалы, 82). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**14 лютага** — *на сустрэчу з пісьменнікамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у межах абласнога семінара бібліятэкараў у Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці (вул. Савецкая, 8). Пачатак у 10.40.*

**16 лютага** — *на сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у СШ № 35 г. Гродна (пасёлак Южны, вул. Фурсенка, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**16 лютага** — *на прэзентацыю кнігі Людмілы Кебіч «Гродна — горад каралёў» у літаратурную гасцёўню «Запрашае "Бярозка"» пры СШ № 12 г. Гродна (вул. Паповіча, 32). Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**16 лютага** — *на літаратурную кампазіцыю «Маёй душы званы» (па творчасці Ніны Кавалёвай) у СШ № 23 г. Горкі (вул. Калініна, 63). Пачатак а 9-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**11 лютага** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніка Яўгена Зялкоўскага «Сляды жыцця» ў Валожынскі раённы цэнтр культуры (г. Валожын, пл. Свабоды, 3). Пачатак а 12-й гадзіне.*

# Імя, што прэзентуе краіну

**Ужо 500 год на тэрыторыі Беларусі пануе Кніга. Адзначаць знакавую дату будзем усёй краінай. Каб яе сутнасць была зразумелая кожнаму, а свята насамрэч стала ўсеагульным, створаны рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання.**

Юбілей беларускага кнігадрукавання мае дзяржаўнае значэнне. Менавіта таму старшынямі арганізацыйнага камітэта абралі міністра культуры Барыса Святлова і міністра інфармацыі Лілію Ананіч. Галоўнай тэмай першага пасяджэння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі стаў план мерапрыемстваў па святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, які змяшчае больш за 60 пунктаў. Яны павінны даць магчымасць паглыбіцца ў гісторыю і асэнсаваць ролю ў ёй асобы, якую шануе Беларусь праз пяць стагоддзяў. Шануе як грамадзяніна свету (таму будзе шэраг міжнародных мерапрыемстваў і дзён культуры Беларусі са зваротам да спадчыны першадрукара) і сваёй краіны, якую хацеў зрабіць лепшай (і робіць цяпер нават праз гэтую дату, што адлюстравана ў розных сферах жыцця).

— Вельмі важна, каб мы не толькі зацвердзілі план мерапрыемстваў, але і яшчэ раз нагадалі пра вялікую працу ў нашай краіне па святкаванні 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, — падкрэсліла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. — Увесь мінулы год стаў годам плённай падрыхтоўкі да адметнага юбілею, і сёлета мы можам паказаць беларусам ды ўсяму свету, як шмат было зроблена нашымі суайчыннікамі ў мінулым, каб сёння наша дзяржава мацавалася гістарычнымі каранямі.

Міністр прадэманстравала кнігі, якія выйшлі з друку ў межах падрыхтоўкі мерапрыемства. Асноўнае месца сярод іх займае кніга «Францыск Скарына на мовах народаў свету», што з'явілася ў Выдавецкім доме «Звязда». Міністр культуры Барыс Святлоў нагадаў, што першае выданне, прысвечанае спадчыне Францыска Скарыны, выдаў Інстытут беларускай культуры яшчэ ў 1925 годзе. Адным з галоўных мерапрыемстваў, што сёлета пройдуць па Беларусі ў межах святкавання юбілею беларускага кнігадрукавання, міністр культуры назваў міжнародны кангрэс, які прызначаны на верасень.

Каб зрабіць свята больш пазнавальным, зацверджаны яго лагатып. Ён упрыгожыць плакаты, распрацаваныя адмыслова для юбілею. Плакаты з'явяцца ў бібліятэках, кнігарнях, шапіках і ў вулічнай прасторы.

— Ужо па тых матэрыялах, што з'яўляюцца сёння на старонках рэспубліканскіх і рэгіянальных газет, у электронных СМІ, на радыё і тэлебачанні, можна меркаваць, што юбілей беларускага кнігадрукавання — добрая магчымасць шырока нагадаць пра культуру Беларусі, — упэўнены намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алесь Карлюкевіч. — Скарына — гэта імя, якое сёння прэзентуе нашу краіну.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



Фота Сяргея Нікановіча.

*Падчас пасяджэння ганаровае месца ў зале займала выява Першадрукара.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Шэкспір па-руску. Прафесійна

**Падчас чарговага пасяджэння бюро секцыі перакладу СПБ да ўступлення ў творчую арганізацыю рэкамендавана гомельская паэтэса і перакладчыца Наталля Іванова. Наталля Уладзіміраўна ўпэўнена: для перакладчыка важныя не толькі літаратурны дар, але і здольнасць пранікнуцца працэсам перакладу на лінгвістычным узроўні.**

Прадставіў творцу старшыня бюро секцыі перакладу Іван Чарота. Мастацкімі перакладамі, у асноўным паэтычнымі, творца займаецца з сярэдзіны 90-х. Выпускніца Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, вольна валодае англійскай і французскай мовамі, з дзяцінства піша вершы. Аўтар трох кніг, пад вокладкай адной з якіх сабраны пераклады санетаў Уільяма Шэкспіра (некаторыя з іх публікаваліся ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы, у тым ліку ў часопісе «Нёман»). Наталля Іванова — суаўтар калектыўных паэтычных зборнікаў. Шмат працуе з моладдзю, ладзіць сустрэчы ў межах літаратурнай гасцёўні для маладых літаратараў «31-ы мерыдыян» на базе Гомельскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А. І. Герцэна, у сваёй альма-матар, гомельскіх школах і сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

Друкавалася Наталля Іванова і ва ўкраінскіх альманахах «Интерреальность» ды «Крылья», і ў расійскім «Параллели». Неаднаразова ўваходзіла ў шорт-лісты міжнародных фестываляў «Славянские традиции» ды «Славянская лира» з перакладамі твораў Шарля Бадлера, Поля Верлена ды іншых паэтаў. Пераможца міжнароднага конкурсу «Провинции мира и миры провинций» у намінацыі «Літаратурны пераклад», за што ўганаравана дыпломам Еўрапейскага кангрэса літаратараў.

«Читай же, что гласит любовь немая — / Глазами слышь, уму любви внимая». Гэтыя шэкспіраўскія радкі (санет № 23), пераствораныя Наталляй Івановай, сведчаць пра ўзровень яе майстэрства.

**Яна ЯВІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**80 гадоў** таму заснаваны Ансамбль беларускай народнай песні і танца Беларускай філармоніі. Існаваў да 1941 года.

**80 гадоў** таму заснавана Магілёўскае музычнае вучылішча імя М. Рымскага-Корсакава.

**65 гадоў** таму створаны Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча.

**55 гадоў** таму заснавана Гімназія-каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка.

**45 гадоў** таму заснавана выдавецтва «Мастацкая літаратура».

**40 гадоў** таму заснаваны Музей старажытнай беларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі. Адкрыты ў 1979 годзе.

**30 гадоў** таму створаны Мінскі тэатр сатыры і гумару «Хрыстафор». Існаваў да 2010 года.

**30 гадоў** таму створаны Новы драматычны тэатр Мінска (да 2004 года меў назву Мінскі драматычны тэатр «Дзе-Я»).

**25 гадоў** таму створана Музычная капэла «Санорус» (раней Мінскі абласны камерны хор «Санорус»).

**6 лютага** 70 гадоў святкуе Віктар Саркісьян, беларускі артыст балета, балетмайстар, народны артыст Беларусі.

**8 лютага** 70-гадовы юбілей адзначае Міхась Кенька, беларускі літаратуразнаўца, перакладчык.

**8 лютага** — 70 гадоў Людміле Пятровай, беларускаму літаратуразнаўцу, выдаўцу, заслужанай дзеячцы культуры Рэспублікі Беларусь.

**8 лютага** 60 гадоў святкуе Іван Кісялеўскі, беларускі мастак манументальна-дэкаратыўнага мастацтва.

**9 лютага** 60-годдзе адзначае Ларыса Сімаковіч, беларускі кампазітар.

**12 лютага** — 80 гадоў з дня нараджэння Алеся Наўроцкага (1937 — 2012), беларускага паэта, празаіка.

## *Дайджэст*

• Збор твораў Марка Твэна папоўніўся казкай «Выкраданне прынца Алеямаргарына». Яна не была апублікаваная і працяглы час лічылася згубленай. Аднак у 2011 годзе навуковец Джон Бёрд знайшоў яе сярод дзённікавых нататак Твэна, якія захаваліся ў архіве Каліфарнійскага ўніверсітэта ў Берклі. «Выкраданне прынца Алеямаргарына» пісьменнік прыдумаў для сваіх дачок. Гэта была адна са шматлікіх падобных казак, але толькі яе Твэн запісаў. Гэта гісторыя пра хлопчыка, які ўмее размаўляць з дзікімі жывёламі і з імі выпраўляецца ратаваць выкрадзенага прынца. Казку плануе надрукаваць выдавецтва *Random House* у выглядзе асобнай ілюстраванай кнігі. Прэзентацыя адбудзецца ўвосень гэтага года.

• Нацыянальны цэнтр мастацтва і культуры Жоржа Пампіду, які лічыцца адным з найгалоўнейшых сучасных культурных аб'ектаў Парыжа, адзначае 40-годдзе. Ён быў пабудаваны ў 1977 годзе на вольным участку квартала Бабур па рашэнні прэзідэнта рэспублікі з мэтай прасоўвання мастацтва мінулай эпохі ў розных яго формах. Культурны аб'ект уключае ў сябе парыжскі Музей сучаснага мастацтва, Цэнтр прамысловага дызайну, Інстытут даследавання і каардынацыі акустыкі і музыкі, а таксама — канцэртныя і выставачныя залы, вялізную аглядальную пляцоўку і бібліятэку са значным фондам літаратуры, якая з'яўляецца дасяжнай і бясплатнай для ўсіх грамадзян свету.

• Твор англійскіх пісьменнікаў Тэры Пратчэта і Ніла Геймана «Добрыя знакі» прыцягнуў увагу *Amazon Studios* і тэлеканала *BBC*. Яны плануюць выпусціць да 2018 года міні-серыял па яго матывах. Сюжэт «Добрых знакаў» разгортваецца ў 2018 годзе напярэдадні Суднага дня. Д'ябал па імені Кроўлі і анёл Азірафель спрабуюць правесці свой план па «адмене» канца свету. Ніл Гейман пракаментаваў навіну: «Амаль 30 гадоў таму мы з Тэры Пратчэтам напісалі самы смешны раман пра канец свету. Мы насялілі яго анёламі і дэманамі, паляўнічымі на ведзьмаў, вершнікамі апакаліпсіса, не кажучы ўжо пра 11-гадовага Антыхрыста. Кніга стала ўлюбёнай для многіх чытачоў, і вось, нарэшце, яна будзе экранізаваная. Шкада, сэр Тэры гэтага не пабачыць».

• Помнік Джэйн Осцін з'явіцца ў Вялікабрытаніі. Сусветна вядомая прадстаўніца англійскай літаратуры займее ўвасабленне ў камені. За стварэнне помніка ўзяўся брытанскі скульптар Адам Рут: «Паводле маёй задумкі, яна будзе выглядаць так, быццам ідзе па плошчы і раптам чуе ад некага: "Добрай раніцы, Джэйн!"» Помнік будзе ўсталяваны ў горадзе Бэйзінсток, а ўрачыстае адкрыццё яго адбудзецца напярэдадні 200-й гадавіны з дня смерці Джэйн Осцін.

• Серыя кніг «Паэты планеты» папоўнілася томікам Рыгора Барадуліна пад назвай «Перавыбранае». Гэта першы том у серыі, які прадстаўляе не замежную паэзію ў перакладах, а ўласна беларускую класіку. У яго ўвайшло роўна сто вершаў, якія адлюстроўваюць творчы шлях паэта, — ад дэбютнага зборніка «Маладзік над стэпам» (1959) да апошняй, пасмяротнай кнігі «У неба пехатою» (2014). «Перавыбранае» будзе прэзентаванае на кніжным кірмашы і міжнародным паэтычным фестывалі «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуе з прычыны смерці краязнаўцы, аўтара шматлікіх кніг і публікацый пра Гродна і гарадзенцаў Віктара Юр'евіча САЯПІНА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

**Роджэр Крэйк — аўтар вершаў, якія друкаваліся ў часопісах *The Formalist, Fulcrum, The Literary Review, The Atlanta Review and The Mississippi Review*, а таксама чатырох паэтычных зборнікаў — *I Simply Stared* (2002), *Rhinoceros in Clumber Park* (2003), *The Darkening Green* (2004), *Down Stranger Roads* (2014). Дзве кнігі паэзіі Р. Крэйка перакладзены на балгарскую мову: *Those Years* («Тыя гады», 2007) і *Of England Still* («Усё яшчэ пра Англію», 2009). Да 2016 года Р. Крэйк працаваў дацэнтам англійскіх даследаванняў і англійскай мовы ўніверсітэта Кент (ЗША).**

**Роджэр Крэйк**

## Там і тут

*У Англіі ўсе абрысы мяккія:*
*Храмы, пагоркі, вёскі, корчмы, палеткі...*
*Хоць і пашкоджаны ўжо пісягамі, гузамі,*
*Якіх наставілі гарады, рвучыся на палі.*
*Ды ўсё роўна дарогі ў бязмежжа імкнуцца*
*Праз гэтыя гарады, не зважаючы на іх.*
*За межы ачышчанага сонцам небакраю*
*Усё лятуць гэтыя дарогі пустэльныя*
*Да тых вялікіх птушак, якія лунаюць*
*У гарачым паветры высока-высока*
*І ахоўваюць гэты наш свет,*
*Такі ж вольны і шырокі, як самаадчуванне.*

## Вяртанне дадому

*Маці мая снядaнак некранутым пакідае*
*І гадзінамі сядзіць, здаецца мне,*
*у задуменні.*
*Яна курыць, разгадваючы красворды,*
*Як рабіла гэта ўжо многія гады,*
*Нешта з учарашняй газеты «Таймс»*
*выразае,*
*Узмацняючы павіслае ў паветры маўчанне.*
*А мне ж увесь час так карціць*
*Перад ёй паказацца валявым і рашучым,*
*Вельмі б хацелася выявіць сваю існасць.*

*Між тым, я станаўлюся ніякім,*
*Больш таго — злуюся не на сябе аднаго,*
*Але і на яе, чыя любоў не асуджае мяне,*
*Хоць і называе ўпартым, калі я сапраўды*
*такі.*
*А тады я бачу, як марны час прамільгнуў,*
*Усведамляючы, што ў кожны мінулы дзень*
*Я павінен быў сказаць нешта важнае.*
*Ды замест гэтага я разглядаю голуба*
*На даху суседа, як ён узмахвае крыламі*
*і ўзлятае.*
*Мяне ж пакідае раздумваць.*
*Чаму такая звычка ўжо на працягу гадоў*
*Пазбаўляе магчымасці зведаць характво*
*маўлення.*
*І я пішу гэтыя словы, якія чытаеце вы,*
*Калі ўжо позна штосьці выказваць —*
*Мая маці пакінула сняданак свой*
*некранутым,*
*Свае цыгарэты «Silk Cut»,*
*Не разгадвае ўжо крыптаграм-красвордаў*
*І не робіць акуратных выразак з*
*Учарашняй газеты «The Times».*

## Певень і харысткі

*Я ў дарозе. Вясёлы таксіст расказвае,*
*як адзін гараджанін, пераехаўшы*
*у наш ціхі край, скардзіцца*
*на вясковага пеўня, што той*
*надта рана заводзіць свой спеў,*
*а яго падхопліваюць і каровы,*
*якіх выганяюць з хлявоў на пашу.*
*Таксіст называе кароў харысткамі,*
*(я на гэта ўсміхаюся ў рэтравізар),*
*а ён даводзіць: разумееце, гэтак жа было*
*і за пяць стагоддзяў да нашых дзён.*
*Тым часам я прыязджаю ў аэрапорт і,*
*прайшоўшы кантроль, сядаю ў самалёт.*
*З часам Англія ўнізе змяншаецца,*
*пад аблокамі знікаюць яе абрысы.*
*Заплюшчваю вочы, даўшы волю думкам.*
*І па стагоддзях мінулых кладуцца шляхі*
*жыцця.*

**Пераклад з англійскай Л. Пятрушынай і І. Чароты.**

# Зразумелае

**Каб адкрыць для сябе іншую культуру, новую краіну, дастаткова ў гэтыя дні завітаць у выставачны павільён БелЭкспа (што на праспекце Пераможцаў, 14). Месца, дзе сыходзяцца, перакрыжоўваюцца, спалучаюцца шляхі, па якіх людзі ідуць да разумення. Больш за 30 краін сталі гасцямі XXIV Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу.**




*Фота Яўгена Пясецкага.*

*Брытанскі павільён у цэнтры выставачнай прасторы.*

І кожная падрыхтавала для наведвальнікаў, акрамя ўласна кніг, шэраг імпрэз, якія дапамагаюць лепш адчуць адмысловасць, падкрэсляць каларыт ці пазнаёміць, уцягнуць у дыялог праз інтэрактыў. Ды праз прыемныя сюрпрызы: кніжныя, мастацкія, нават канцэртныя, інтэлектуальныя, якія дапамагаюць знайсці адказы на некаторыя пытанні сучаснай культуры.

Напрыклад, на стэндзе пасольства ЗША ёсць магчымасць падчас выстаўкі далучыцца да таго асаблівага свету, які зрабіў спевака Боба Дылана нобелеўскім лаўрэатам па літаратуры. Сама Швецыя, якая ўручае прэміі, таксама прадстаўлена на выстаўцы. Краіны Еўропы, дарэчы, традыцыйна імкнуцца прыцягнуць праз чытанне найперш на іх мовах. Тыя, хто шукаюць літаратуру на нямецкай, ведаюць, навошта ў гэтыя дні ісці да стэнда Германіі…

Наогул, мовы як культурныя адметнасці краін, вельмі прываблівaюць. Таму ля Іранскага стэнда, дзе ў дзень адкрыцця выстаўкі прыгожая дзяўчына дэманстравала мастацтва каліграфіі, увесь час збіраліся людзі: цікава ж пабачыць нашы словы (імёны), напісаныя па-персідску, ды яшчэ запомніць, як бы яны гучалі на гэтай мове.

А мова Дантэ? І для рамантыкі, і для захапляльных інтрыг, даказваюць удзельнікі з Італіі. Упершыню прыехаў у Беларусь пісьменнік Карла Лукарэлі, але адразу стаў актыўным удзельнікам выстаўкі: правёў майстар-клас па навучанню дэтэктыўнаму пісьму і прэзентаваў сваю новую кнігу «Італьянская інтрыга», прычым даўшы магчымасць адчуць, як урывак з гэтага твора гучыць па-беларуску.

Але зрабіць сваю літаратуру яшчэ больш зразумелай для нас імкнуцца нават краіны з блізкімі нам мовамі. І нават з творамі і творцамі, імёны якіх мы цудоўна ведаем. Польшча сёлета прадстаўляе раман Станіслава Лема «Непераможны». Але ў перакладзе на беларускую Анатоля Бутэвіча. Таксама чытвом для душы можа стаць раман Тадэвуша Далэнгі-Мастовіча «Знахар» (бо не ўсе ўжо памятаюць фільм Ежы Гофмана, што на пачатку 80-х прайшоў з трыумфам па кінатэатрах). І сучасныя пісьменнікі гатовыя да сустрэч з беларускай чытацкай аўдыторыяй: у якасці госця сёлета пісьменнік-фантаст Яраслаў Гжэндовіч. І штосьці блізкае нам: цяпер па-беларуску выданне Фларыяна Чарнышэвіча «Надбярэзінцы».

Беларуская мова гучала і на стэндзе Расіі, які аб'яднаў больш за 20 выдавецтваў. Адно з іх — «Міжнароднае агенцтва гуманітарных ініцыятыў» — зладзіла прэзентацыю паэтычнай анталогіі, альманаха і кніг беларускіх аўтараў, з удзелам Алеся Разанава, Валярыны Куставай і Анатоля Кудласевіча. Вядома, і кнігі сучасных расійскіх пісьменнікаў без увагі не застануцца (выбар на стэндзе багаты). Але ж прыемна адчуваць павагу да гаспадароў з боку гасцей.

Некаторыя з іх (як Кітай) выкарыстоўваюць тэхнічныя навінкі, каб зняць цяжкасці перакладу. Некаторыя іх не маюць (з-за агульнага з намі мінулага) і паглыбляюцца ў беларускі літаратурны свет. Некаторыя краіны па-сяброўску гатовыя дарыць кнігі. Ці дзяліцца магчымасцямі новых адкрыццяў праз адукацыю. Выкарыстаем?

# Класікі, валынка і чароўная будка

Гэтыя гукі не зблытаеш ні з чым: мудрагелістыя мелодыі валынак і каларытныя музыкі імгненна сабралі на адкрыцці стэнда Аб'яднанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі вялікую колькасць прысутных. Ацанілі неардынарнасць сітуацыі: валыншчыкі 2-га Каралеўскага Палка Ірландыі, якія прыехалі ў Мінск для ўдзелу ў XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, гралі разам з беларускімі музыкантамі-вайскоўцамі. Але самае цікавае пачалося, калі яны ўсё ж ступілі на «сваю тэрыторыю»: брытанскі павільён у цэнтры выставачнай прасторы і зусім не выглядае выспай, міма не пройдзеш. Тым больш, калі пад музыку ірландскіх валыншчыкаў танчыць Фіёна Гіб, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. Рытмічныя рухі тут жа захацелі пераняць нашы суайчыннікі, асабліва моладзь. Дзве паненкі ў нацыянальных беларускіх строях не ўтрымаліся і станцавалі разам са спадарыняй пасломзапальны нумар. Вось, аказваецца, якая Вялікабрытанія: без залішняга пафасу, па-чалавечы, але ўсё ж па-свойму.

Свой стэнд пазначылі не толькі сцягамі. Біг-бэнд, вядома, не ўзвядзеш у павільёне. Але часцiну таго, што стварае твар Лондана, пабачыць можна: чырвоная тэлефонная будка стала папулярным экспанатам для фотаздымкаў. Ля яе неяк нязмушана людзі пачыналі спрабаваць гаварыць па-англійску. Між іншым адна з задач, якую ставіла на мэце краіна падчас удзелу, — прасоўваць англійскую мову і адукацыю.

— Для нас вялікі гонар быць ганаровымі гасцямі кніжнай выстаўкі ў Мінску, асабліва ў такі адметны год, калі Беларусь святкуе пачатак працы Францыска Скарыны, — адзначыла Фіёна Гіб, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі. — Спадзяёмся, што такім чынам будзем падтрымліваць сувязі паміж выдавецкім бізнесам Вялікабрытаніі і кнігавытворцамі Беларусі. У нас запланаваныя мерапрыемствы не толькі на кірмашы, але і на розных пляцоўках горада Мінска, з удзелам беларускіх творцаў. Для мяне асабіста Мінская кніжная выстаўка стала стымулам, каб больш паглыбіцца ў культуру, у тым ліку беларускую. Мы пастараліся адлюстраваць такую тэму, як існаванне ў Лондане бібліятэкі імя Францыска Скарыны. Таксама мяне радуе, што творы англійскіх пісьменнікаў стануць даступныя чытачам вашай краіны ў перакладзе на беларускую. Але і на англійскую перакладаліся творы беларускай літаратуры. Гэтым, у прыватнасці, плённа займалася Вера Рыч: яна перакладала класікаў беларускай літаратуры. На адной з нашых імпрэз у музеі Максіма Багдановіча я буду чытаць верш гэтага паэта.




*Пад музыку ірландскіх валыншчыкаў танчыць Фіёна Гіб.*

**Ларыса ЦІМОШЫК**

# «Удзячныя Беларусі за кансалідацыю творчых памкненняў...»

**Ёсць такая прафесія — пісьменнік! І з гэтым нават сёння спрачацца цяжка. Аргументаў шмат. Тэарэтычна пісьменнікам можа стаць кожны, хто авалодаў пісьмом, — пісаць нас вучаць з дзяцінства, аднак у пісьменнікі трапляюць толькі тыя, хто прысвяціў гэтай справе жыццё, хто ўкладвае ў яе талент і працу, іншым разам шматгадовую, і праз сумненні, а часам і няўпэўненасць, дасягае мэты. Завяршаючы твор, кожны пісьменнік спадзяецца (як ні банальна гэта гучыць) атрымаць за сваю працу ўзнагароджанне...**

**Пісьменнік жыве сярод нас, на нашым баку жыцця, таму гаворыць пра яго праўдзіва і рэалістычна. Уся «соль» у тым, што колькі людзей, столькі і меркаванняў. То бок, чытаючы літаратурныя творы, мы даведваемся пра розныя вывы жыцця і свету ўвогуле, можам пагаджацца ці спрачацца, даведвацца пра нешта новае ці ўзгадаць забытае. Кожны пісьменнік піша сваю энцыклапедыю жыцця. Якую выбраць — вырашае чытач. Няма пісьменніка без чытача! Дык як знайсці паразуменне з сучасным чытачом, як быць пачутым у сённяшнім грамадстве? Гэтае пытанне — толькі адно з тых, шматлікіх і грунтоўных, на якія шукалі адказы вядомыя творцы з блізкага і далёкага замежжа — госці і ўдзельнікі ІІІ Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час», што праходзіў у межах Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу.**

**Прадстаўнікі з Расіі, Казахстана, Таджыкістана, Польшчы, Турцыі, Італіі, Сербіі ды іншых краін выказалі жаданне паўдзельнічаць у працы сімпозіума, гэтым разам прысвечанага 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Падзеі, знакавай не толькі для нашай краіны. Падзеі, якая яднае нас з усім светам. І ўсяму свету абвяшчае нашу адукаванасць, традыцыі, развіццё. Францыск Скарына ў беларускай і сусветнай культуры, літаратурныя ўзаемасувязі ў кантэксце міжнародных агульнакультурных стасункаў, функцыі літаратуры ў святле рэалій сучаснага свету — вось такія тэматычныя напрамкі сталіся галоўнымі ў пісьменніцкім дыялогу. І размова атрымалася! Зацікаўленая, шчырая, аргументаваная.**



**Вітанне сімпозіума «Пісьменнік і час» даслалі сябры Беларусі з розных краін свету. Сярод іх — і Рыма Арцем'ева, паэт, празаік, журналіст, намеснік старшыні Савета па рускай літаратуры Саюза пісьменнікаў Казахстана. Вось што яна, у прыватнасці, піша:**

— Свет Абая, Францыска Скарыны, Мухтара Аўэзава, Якуба Коласа, Аванеса Туманяна, Авеціка Ісаакяна і многіх, многіх іншых пісьменнікаў-класікаў падарылі сучасным чытачам інтэрнэт-пляцоўка «Сугучча» і кнігі, надрукаваныя выдавецтвам «Звязда», узвышаючы мастацкае слова, асвятляючы яго значнасць у сучасным свеце. Публікацыі сучасных пісьменнікаў з розных краін дазваляюць нам, маючы розныя геаграфічныя каардынаты, розныя нацыянальныя карэнні, пашыраць прастору яднання, бачыць тую незвычайную еднасць, якую адкрывае сучаснасць.



**А вось што адзначыла Рыма Ханінава, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук (Расійская Федэрацыя, г. Эліста):**

— Я ўжо паспела пабываць у Беразіно, ганаровым грамадзянінам якога з'яўляецца мой бацька — беларускі партызан і калмыцкі паэт Міхаіл Хонінаў. Уражана, як ставяцца ў вашай глыбінцы да кнігі, да мастацкага слова. Дзякуй бібліятэкарам, іншым рупліўцам за такое стаўленне да прыгожага пісьменства. Мне здаецца, што якраз духоўнасць, асветніцтва спрыяе стабільнасці ў Беларусі, дазваляе традыцыйнай культуры быць на вышыні. Дзякуй, што запрасілі на міжнародны сімпозіум. Упэўнена: мне будзе што расказаць сваім студэнтам, калегам. А ў нашым друку з'явяцца новыя пераклады на калмыцкую мову беларускай паэзіі, прозы. Завочна я даўно знаёма з паэтамі, перакладчыкамі Таццянай Сівец, Адамам Шостакам, Рагнедам Малахоўскім. Зараз у мяне — сустрэчы, творчыя перамовы з калегамі. Дзякуй арганізатарам сімпозіума, Міністэрству інфармацыі за спрыянне ў такіх пісьменніцкіх стасунках!

**Агагельды Аланазараў, паэт, перакладчык, празаік (Туркменістан, г. Ашхабад):**

— Я прывёз у Беларусь два «беларускія выпускі» — часопісаў «Дунья эдэбіяты» («Сусветная літаратура») і «Каракум». Мы наладзілі цеснае супрацоўніцтва паміж паэтамі і перакладчыкамі Туркменістана і Беларусі. Як вынік — новыя публікацыі і нават кнігі, што выходзяць у Мінску і Ашхабадзе. Мы ўдзячны «Звяздзе» за выданне фактычна біяграфіі, летапісу нашых літаратурных, культурных адносін — «Літаратурнае пабрацімства: "Беларусь — Туркменістан"». Спадзяюся, што гэтая кніга ў перакладзе на туркменскую мову пабачыць свет і ў Ашхабадзе.





**Мухсін Ісабоеў, дырэктар выдавецтва «Нашыр» (Таджыкістан, г. Душанбэ):**

— Заўсёды з вялікай цікавасцю прыязджаю ў Мінск. Радуюся поспехам вашых выдаўцоў. Амаль дзесяць тысяч назваў кніг у год — уражлівая лічба. Магу толькі павіншаваць ваша Міністэрства інфармацыі з такімі здабыткамі. Ведаю многія беларускія кнігі, якія сталі пераможцамі конкурсу «Мастацтва кнігі СНД». Так трымаць, беларусы! Мы шмат чаму ў вас вучымся. Дзякуй, што пазнаёмілі свайго чытача з неўміручай паэзіяй вялікіх таджыкаў Рудакі, Лаіка Шэралі, Нізома Касіма, Муміна Канаата. У многім гэта адбываецца дзякуючы рупліваці нашых калег-выдаўцоў са «Звязды»! Вось і зараз мне давялося паўдзельнічаць у круглым стале па беларуска-таджыкскіх сувязях, які арганізавала «Звязда».



Фота Кастуся Дробава.

*Гасцей кніжнай выстаўкі-кірмашу вітае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.*

**Марат Ахмеджанаў, выдавец, заснавальнік Выдавецтва «*Hertfordshire Press*» (Лондан), намеснік старшыні Еўразійскай творчай гільдыі (грамадскай арганізацыі, якая аб'ядноўвае на адзінай прасторы людзей розных сфер і формаў мастацтва з мэтай прасоўвання іх работ па ўсім свеце і пошуку ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва):**



— Досвед пісьменнікаў і літаратараў не толькі дазваляе чалавеку зразумець сваё месца ў грамадстве ды правільна пабудаваць жыццёвы шлях, але і дапамагае вырашыць шматлікія сацыяльныя праблемы і канфлікты. Практычна ўсе з'явы жыцця так ці інакш ужо апісаны, разабраны ў класічнай літаратуры, і наша задача — успрыняць досвед пісьменнікаў, асэнсаваць яго і ўмець выкарыстоўваць на практыцы. Сапраўды, звяртаючыся да літаратуры, мы захаваем нямала свайго часу, спасцігаючы людскія характары і лёсы, вывучаючы паводзіны ў жыццёвых сітуацыях на прыкладах літаратурных герояў.

Міжнародныя сімпозіумы — гэта цудоўныя пляцоўкі для абмену досведам і дасягненнямі, месца, дзе можна распавесці пра асаблівасці сваёй краіны, культуры. Кожнаму ўдзельніку будзе чым падзяліцца, што пераняць, чым натхніцца. Такія сувязі спрыяюць выхаду на новы міжнародны ўзровень. Сімпозіумы даюць магчымасць зацікавіць апанентаў у перакладзе сваіх твораў на іншыя мовы, прадставіць свае работы ў іншых краінах, а таксама прывезці на радзіму нешта новае.

XXIV Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш цікавіць мяне як выдаўца. Наша каманда на працягу многіх гадоў з'яўляецца звяном, якое дапамагае пісьменнікам і аўтарам выйсці на новы ўзровень. Сёлета мы прадстаўляем краіну, дзе працуем, прывязём творы англійскіх пісьменнікаў, работы аўтараў, якіх пераклалі і выдалі, а таксама плануем правесці шэраг прэзентацый і чытанняў. Мы хочам пазнаёміцца з аўтарамі з Беларусі і іншых краін — удзельніц выстаўкі-кірмашу, адкрыць для сябе нешта новае!

**Ролю Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ва ўмацаванні міжлітаратурных кантактаў падкрэслівае загадчык кафедры тэорыі і найноўшай гісторыі персідска-таджыкскай літаратуры філалагічнага факультэта Таджыкскага нацыянальнага ўніверсітэта Муртазо Зайніддзінаў:**



— Лічу, што Мінская міжнародная кніжная выстаўка вельмі спрыяе міжнароднаму творчаму сяброўству. У Беларусі я ўпершыню, даўно хацеў бліжэй пазнаёміцца з беларускімі пісьменнікамі. Чакаю адкрытых гутарак, прадуктыўнай палемікі.

Мы знаёмыя з творчасцю беларускіх класікаў. Так, напрыклад, яшчэ з 30-х гадоў мінулага стагоддзя па-таджыкску перастваралісе асобныя творы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Аўтар першых перакладаў іх спадчыны — Абулькасім Лахуці. Пасля гэтым займаліся паэты Мухамаджон Рахімі, Мухіддзін Фархат, іншыя дзеячы таджыкскай літаратуры.

Шмат для нас значаць кантакты з беларускімі літаратарамі. У працэсе стасункаў я даведваюся шмат новага і карыснага. Мяркую, што-нішто скарыстаю і для ўдасканалення курса сваіх лекцый для студэнтаў. І, канечне, прывязу дадому кнігі беларускіх аўтараў.

Таджыкска-беларускія літаратурныя сувязі маюць глыбінныя гістарычныя карані, у Таджыкістане даўно і добра ведаюць беларускую літаратуру. Гэтыя веды перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Сёння для ўмацавання нашых стасункаў вельмі шмат робяць пісьменнікі Ато Хамдам і Алесь Карлюкевіч. Так што сутворчасць працягваецца.

# ПАЛАМАНЫЯ РЫТМЫ ВЕРЛІБРА




**Выдатна.** Фрагменты рамана «Цётухна Тацуру» кітайскай пісьменніцы Янь Гэлін (перакладчык Аліна Пярлова). Пралог да рамана — расповед пра сумны лёс перасяленцаў з Японіі, якія жылі ў Маньчжурыі і ў жніўні 1945 года былі вымушаныя ўцякаць ад кітайскіх і савецкіх салдат. Зняволеная дзяўчына трапляе ў кітайскую сям'ю і робіцца палюбоўніцай жанатага маладога мужчыны Чжан Цзяня. Японка Дохэ — сірата, яе сям'я, верагодна, загінула ад рук кітайцаў. Законная жонка Чжан Цзяня страціла дзіця па віне японскіх салдат і ўжо ніколі не зможа нарадзіць. Тэма кахання і вайны раскрываецца ў новым ракурсе: японцы і кітайцы вінныя ў безлічы сямейных трагедый сваіх суседзяў, і галоўных герояў аб'ядноўвае інтымная блізкасць, клопат пра дзяцей і гаспадарчыя справы. Традыцыі рэалістычнай прозы паспяхова развіваюцца ў кітайскай літаратуры, таму чытачы, якія цэняць псіхалагізм і ўвагу пісьменніка да сацыяльнай сітуацыі, з цікавасцю пазнаёмяцца з прозай Янь Гэлін.

**Сумніўна.** Апавяданні Васіля Ткачова «Праводзіны». Васіль Ткачоў падаецца чалавекам добразычлівым і шчырым, уважлівым да сяброў і суседзяў. Ён з задавальненнем апісвае гісторыі, якія сведчаць, што сучасныя людзі застаюцца спагадлівымі, імкнуцца да паразумення, з павагай ставяцца да старэйшых. Шкада, што бракуе глыбіні — асабліва двум апошнім апавяданням з падборкі.

**На суд чытачоў.** Нарыс Валяр'яна Кісліка «Пра чырвонаармейца Навума Кісліка, яго сяброў і не толькі...». Навум Кіслік — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, выпускнік філфака БДУ, добры сябар Алеся Адамовіча і Валянціна Тараса, супрацоўнік часопіса «Полымя» і газеты «ЛіМ», перакладчык многіх беларускіх паэтаў на рускую мову, а галоўнае — вельмі добры рускамоўны паэт, пра што сведчаць вершы, прадстаўленыя ў публікацыі. Імя Навума Кісліка амаль забытае сёння, а ўзгадаць гэтага чалавека безумоўна варта. Валяр'ян Кіслік піша пра брата вельмі далікатна і прысвячае шмат увагі літаратурнаму жыццю 1960 — 1970-х гадоў.

***

**Выдатна.** Калі ў пераліку ўлюбёных аўтараў паэта-пачаткоўца бачыш Сяргея Жадана, Вальжыну Морт, Віталя Рыжкова, Андрэя Адамовіча, нараджаецца спадзеў, што чалавек гэты ў літаратуры невыпадковы. Што першыя яго крокі дазволяць займець надзею на новае імя, якое, быць можа, праз пару дзясяткаў гадоў назаве ў спісе ўлюбёных іншы пачатковец. Новы год «Маладосць» пачынае з дэбюту Валерыі Данілевіч, тым самым задаўшы планку для новага літсезона (зноў жа, датычна дэбютантаў). Не даючы якіх-кольвек авансаў, ужо можна адзначыць небанальнасць аўтаркі і неабходную літаратару інтуіцыю, якая трымае любоў да драматызацый у межах прымальнага. Гэта добры пачатак — але толькі пачатак, на чым засяродзім увагу. Гэтаксама вартае ўвагі апавяданне Юльяны Пятрэнка «Няпрошаныя госці». Аўтарка зарэкамендавала сябе як добры апавядальнік, здольны як да міфалагічна-містычных матываў, так і да праўдзівых псіхалагічных партрэтаў. У гэтым канкрэтным выпадку больш першага, але след другога таксама заўважны.




**Сумніўна,** што радкі Настассі Нарэйка *«Я грэю ля агню ільдзінкі рук, / А слёз крышталь мне сыпле прама ў каву»* закрануць у душы чытача мінорныя струны, як таго, відаць, хацелася б аўтарцы. Больш верагодна, што замест чуллівай слязы народзіцца прыхаваная ўсмешка.

**На суд чытача** гэтым разам вынесем паэтычную нізку Рагнеда Малахоўскага. Паэт, вядомы раней як класічны лірык (адпаведны набор вобразаў, рыфмаваная форма і г.д.), абвясціў бунт і ўзяўся за эксперыментатарства. Напачатку толькі яно і было заўважнае. Прабягаючы вачыма радкі, напоўненыя тэхнагеннай і сеціўнай лексікай, змацаванай між сабой цынізмам, адчаем і горкім посмехам, адно гэтыя рэчы й бачыліся. Не было галоўнага — паэзіі. Рагнед працягваў творчыя пошукі (пасродкам зруйнавання сябе ранейшага, што заслугоўвае павагі — не кожны на тое адважыцца). Новая паэтычная нізка пад назвай «Паламаны рытм» паказвае, што пошукі недарэмныя: паміж гучных і не абцяжараных сэнсам радкоў пачало прарастаць мастацтва: «кожны з нас геніяльны як пыл / у сваёй прастаце». Дзеля гэтых дзевяці слоў варта было надрукаваць дзясяткі іншых.

***

**Выдатна:** артыкул Ірыны Шаўляковай-Барзенка «Беларуская літаратура ў інфармацыйным грамадстве: пагрозы як гарантыя перспектыў». Калі пісьменнікі і выдаўцы разважаюць пра праблемы сучаснай літаратуры, то часта абмяжоўваюцца ўзнаўленнем агульнавядомых тэзісаў. У артыкуле Ірыны Шаўляковай можна знайсці шмат новых ідэй: даследчыца прапануе разгледзець сітуацыю шматаспектна, з улікам уплыву інфармацыйнай рэальнасці на розныя ўзроўні нацыянальнай літаратуры. Ідэнтычнасць абароннага кшталту мае трансфармавацца ў ідэнтычнасць праектнага кшталту, і асэнсаванне пазалітаратурных ды ўнутрылітаратурных пагроз — стартавая пляцоўка, каб вызначыць уласны шлях!

**Сумніўна:** аповесць Наталлі Канстанцінавай «Усё яшчэ наперадзе...». Галоўны герой — малады прывабны хлопец, марыць пра «чыстае светлае каханне з адной-адзінай і пра трывалую сям'ю з дзецьмі». Але дзяўчаты аддаюць перавагу больш уладкаваным кавалерам, а знаёмыя, з якімі атрымліваецца наладзіць блізкія адносіны, не адпавядаюць ідэалу жаноцкасці. У фінале герой апынаецца ў абдымках са стрыптызёркай і разважае пра тое, што жыццё — гэта мноства калідораў... «Заходзіць па чарзе ў кожны, рабіць некалькі крокаў і, зразумеўшы, што ён не твой, уцякаць» — таксама варыянт, бо ў 23 гады для сучаснага чалавека ўсё толькі пачынаецца. Калі б пісьменніца больш дэталёва распавяла пра змену светапогляду героя ці больш выразна выявіла ўласную пазіцыю, аповесць апынулася б выдатным творам. Аднак у гісторыі бракуе вастрыні, рэзкасці, аўтарскай суб'ектыўнасці — яна нагадвае расповед пра брата ці колішняга аднакласніка: не хочацца асуджаць хлопца, выводзіць з яго прыгодаў банальнае маралітэ, але смелых думак чакаць таксама не варта...




**На суд чытачоў:** перастварэнні Алеся Разанава «Да вечна жывога жыцця» (з Францыска Скарыны). Прадмовы і пасляслоўі беларускага першадрукара, ператвораныя ў верлібры, — гэта магчымасць уважліва і нетаропка перачытаць Скарынавыя радкі, уявіць нашага славутага суайчынніка ў Вільні ці Празе, адчуць яго ўзнёсласць і ўзрушанасць, калі на «рускай» мове выдавец акрэслівае змест, гісторыю і прызначэнне кніг Старога і Новага Запавета. Творы Алеся Разанава дазваляюць адчуць атмасферу рэнесанснай Еўропы, задумацца над Боскімі запаветамі, а галоўнае — узгадаць, што мова — гэта вялікі скарб, і кожнае яе слова — сэнсоўнае, выкшталцонае, важкае...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Наста ГРЫШЧУК**

# Каханне і нянавісць па-кітайску

Пра кітайскую класіку беларускі чытач начуты: даволі перакладаў, найперш паэтычных, выпусціў на кніжны рынак Выдавецкі дом «Звязда». Аднак хацелася б ведаць пра плён далёкай літаратуры за час не такі далёкі, прынамсі, за пару найбліжэйшых дзесяцігоддзяў. «Маладосць» дае такую магчымасць: у перакладах на беларускую мову надрукаваная проза Джу Вэнбін, А І, Фэн Тан і Цзін Жэньшунь. Проза — найвышэйшага гатунку.

Апавяданне «Гавана» Джу Вэнбін раскрывае свет белых каўнерыкаў, прычым — вачыма жанчыны. Яна смелая, моцная, разумная, здольная трымацца сябе ў руках і пры гэтым заставацца жаноцкай. Цсіпаа — мадэрнаваная на сучасны лад традыцыйная кітайская сукенка — выступае ў апавяданні ненавязлівым сімвалам жанчыны новага часу, якая, не здраджваючы сваёй прыродзе, змагаецца за поспех нароўні з мужчынамі. Гэты твор варта разглядаць, па-першае, з пункту гледжання так званых адвечных каштоўнасцей (кшталту маралі і яе адноснасці ці непарушнасці); па-другое, у «Гаване» паўстаюць вострыя гендарныя пытанні. Так, галоўная гераіня — добры спецыяліст, які не просіць асаблівага да сябе стаўлення праз полавую прыналежнасць. Але, нягледзячы на яе прафесійныя якасці, бос бачыць у жанчыне патэнцыйнае плоцевае задавальненне. Гавана — кодавае слова, якое азначае распусту й пустэчу, што прыходзіць за ёй следам. Прыходзіць немінуча, таму й адчуваецца глыбокі адчай за аптымістычным тонам расповеду. Яшчэ адзін значны матыў — падвоенасць чалавека. Гераіня разважае пра дзве свае паловы: верхняя — увасабленне розуму, халоднай развагі, ніжняя — прыродны пачатак чалавека (незалежна ад полу). Як жа застацца чалавекам? Такое чэхаўскае пытанне ставіць перад сабой Джу Вэнбін.

А І ў апавяданні «Прарок» выкарыстоўвае класічны ход: апавядальнік знаходзіць ліст, змест якога робіцца асновай твора. Так адказнасць за ўсё сказанае перакладаецца на плечы галоўнага героя, а героем выступае ці то блазан, ці то геній. Селянін з дрымучай кітайскай вёскі задумаўся над сэнсам жыцця і праз тое «праславіўся» вар'ятам. Дзень і ноч яму не дае спакою пытанне: што рухае чалавецтвам? Чаму мы робім справы, у якіх не маем пільнай патрэбы? Што такое час? Адказ раскрываць не будзем — варта пачытаць аповед А І. Адзначым толькі, што апроч гэтай цэнтральнай праблемы паўстае яшчэ адна: герой (і з ім аўтар) размяжоўвае паняткі «адукацыя» і «розум». І гэта вельмі слушна і актуальна для нашай краіны, дзе вышэйшую адукацыю чамусь лічаць абавязковай. Калі выпускнік школы не паступае ў ВНУ, яго лічаць няўдачнікам. Калі ты не маеш «корачку», да цябе не паставіцца сур'ёзна працадаўца. Пэўна, вар'яцтвам варта лічыць якраз такое скажонае стаўленне да чалавечага інтэлекту, а не спробы селяніна разгадаць загадку чалавечага існавання. Як лічыце?..

Тонкім гумарыстам паўстае Фэн Тан у апавяданні «Дваццаць адно няшчасце Цсі Байшы». Насамрэч, гэта й не апавяданне, але 21 нататка-эсэ, адпраўной кропкай для якіх робіцца цытаты старадаўняга пісьменніка, якога Фэн Тан абірае за настаўніка. У нашых рэаліях прозу Фэн Тана назвалі б зацемкамі. Літаральна ён разважае пра прызначэнне і працу пісьменніка. У ягоным быццам бы несур'ёзным стаўленні да літаратуры бачная зусім не легкадумнасць, але дасціпнасць і мудрасць, якія дасталіся яму, пэўна, не так і лёгка. Шырэй апавяданне Фэн Тана — развага пра чалавека і яго справу, пра тое, што здаецца значным і што такім ёсць насамрэч. На многія рэчы ён глядзіць вельмі проста, як дзіця, а гэта дазваляе адкінуць надуманую людзьмі фальшывую каштоўнасць таго ці іншага «сур'ёзнага» панятка і сказаць, як той герой Андэрсэна, што кароль — голы.

Жыццё кітайскіх падлеткаў небанальна апісвае Цзінь Жэньшунь. Аповед «Гарадок Суншуджэнь» пераносіць чытача ў правінцыйны гарадок, дзе галоўная славутасць — шахты, а кіназдымачная каманда ўспрымаецца ледзьве не як прышэсце Хрыстова. Тут багата камічных апісанняў: паводзіны школьнікаў перад камерай, неаб'дымная гасціннасць гаспадыні рэстаранчыка, паняткі пра сяброўства мясцовых рабочых і інш. Нельга не заўважыць, што так званы рабочы люд аднолькавы ў любой кропцы зямнога шара. Прынамсі, кітайскі шахцёр і беларускі трактарыст будуць аднолькава падазрона паглядаць на шумных гасцей са сталіцы і спрабаваць вырашыць з імі, людзьмі найвышэйшага свету, свае надзённыя праблемы. Цзінь Жэньшунь віртуозна, інакш і не скажаш, паказвае, наколькі больш вынаходлівае і жорсткае бывае жыццё датычна мастацтва. Фільм, які збіраліся здымаць героі аповеду, мусіў распавесці пра падлеткавую драму. Стужка так і засталася праектам, а вось драма — са смерцю, слязьмі, горыччу, зламанымі лёсамі — усё роўна спраўдзілася. Рызыкну сцвярджаць, што галоўная думка Цзінь Жэньшунь у гэтым аповедзе: мастацтва заўжды саступае жыццю, бо з яго нараджаецца, і чалавек толькі марыянетка, якім бы творцам сябе ні ўяўляў. Пра каханне фальшывае і сапраўднае, пра пажаднасць і пяшчоту, плоцевае і блізкасць душаў — аповед «Жаўрук». Каханню падуладныя ўсе ўзросты — выказванне вядомае. Пасля «Жаўрука» можна дадаць: і часам гэтыя ўзросты — вельмі далёкія адно ад аднога. Галоўнае — паспець зразумець, дзе золата, а дзе — танны бляск.

Публікацыя разгледжаных твораў — нагода падумаць пра стварэнне зборніка найноўшай кітайскай прозы. Калі творы ў ім не саступяць «Жаўруку», «Гаване» і іншым, поспех кнізе гарантаваны.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Скарыніяна Уладзіміра Караткевіча



Язэп Драздовіч «Францыск Скарына. Са свету з навукай», 1944.

**У сувязі з пяцісотгоддзем беларускага кнігадрукавання ўзнікае цудоўная нагода для сістэматызацыі напісанага пра Францыска Скарыну карыфеямі нашага прыгожага пісьменства. Калі казаць пра другую палову XX стагоддзя, найбольш значны і адметны след у Скарыніяне пакінуў Уладзімір Караткевіч, прычым першадрукар згадваецца ў прозе і драматургіі, разглядаецца ў паэзіі і эсэістыцы.**

## «СТРАЦІЎ НЕ Я АФІНЫ...»

Першы твор — верш «Скарына пакідае радзіму» — напісаны ў 1959 годзе і змешчаны ў лісце У. Караткевіча з Масквы да Янкі Брыля (з назвай «Скарына»). Уся ідэйна-тэматычная скіраванасць верша нітуецца з выгнаннем адзінага на тагачаснай Беларусі чалавека «ў доктарскай шапцы дзіўнай», якому «па волі зямных багоў» даводзіцца пакідаць родную зямлю. Праз скупую вобразную сістэму, праз напружаны рытм, што нагадвае рух колавага экіпажа з «пузатым конікам» на гразкай дарозе, паэт пераносіць чытача ў XVI стагоддзе, каб паказаць «цемру» і «дурасць», якія валадарылі душамі людзей. Паэт, як і Скарына, далёкі ад асуджэння народа — ён яшчэ непадрыхтаваны, не можа разумець друкаванае слова. Але першадрукар — ад гэтага ж народа, працуе на яго карысць і славу і не здольны яго выракацца. Паэт прыводзіць словы старажытнагрэчаскага філосафа, матэматыка і астранома Анаксагора: «Страціў не я Афіны, // Хутчэй Афіны — мяне». Дзякуючы гэтаму выказванню У. Караткевіч звязвае многія стагоддзі беларускага існавання ў свеце, вядзе чытацкую думку да гэткіх жа не прызнаных сваім народам геніяў. Ды, урэшце, і да самога сябе, які не па ласы кавалак з'ехаў у Маскву. Пазней, у вершы «Багдановічу» (1966), загучаў палымяны покліч да суайчыннікаў: «Унукі Скарыны! // Дзе ваш гонар, моц і краса?»

## ПРАРОЦТВА

У мастацкай прозе У. Караткевіча асоба Скарыны згадваецца ў раманах «Каласы пад сярпом тваім» (Алесь Загорскі купляе ў Маскве кнігу першадрукара) і «Хрыстос прызямліўся ў Гародні: Евангелле ад Іуды» («плаванне Калумба і выданне Скарынам Біблії на зразумелай мове, — сцвярджае пісьменнік, — ёсць два ўдары з серыі смяротных удараў, якія наносіць іхняй [сярэдневяковай] догме новы Чалавек»).

У апавяданні «Госць прыходзіць на золкім світанні» аўтар апісвае выстаўку карцін мастака Антося Доўгага, на якой гледачы «бачылі карпусы механічнага, каланаду педінстытута, на фоне якой вымалёўваўся помнік Скарыну (яго яшчэ не было), нават некаторыя старыя будынкі, якія мастак пакінуў новым дням». У час напісання апавядання (1959) пра помнік першадрукару можна было толькі марыць.

## ЭКЗАМЕН ПЕРАД ЕЎРОПАЙ

Але самае важкае слова пра Ф. Скарыну Караткевіч сказаў у сваіх эсэ, стаўшы, па словах Генадзя Кісялёва, «бадай што, непераўзыдзеным майстрам гэтага жанру». Першае эсэ, прысвечанае першадрукару, — «Людзям простым для добрага навучэння...» — на радзіме было адхілена (рукапіс захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва сярод неапублікаваных матэрыялаў часопіса «Маладосць» за 1965 год). Верагодна, з гэтай прычыны пісьменнік даслаў твор у беластоцкую «Ніву», дзе ён быў змешчаны 4 сакавіка 1965 года, а потым у скарочаным выглядзе — 6 жніўня 1967 года. Ужо ў гэтым творы У. Караткевіч паспрабаваў зазірнуць углыб гісторыі, разгледзець дзейнасць Скарыны праз сувязь з еўрапейскімі падзеямі канца XV — пачатку XVI стагоддзя і вызначыць значэнне такіх асоб для сучаснікаў: «Яны шукалі праўду і чалавечнасць, ваявалі за іх і гінулі, у загібелі здабываючы перамогу. Светачы сярод галечы і гною, першыя агні, нашы продкі, справу якіх мы нясём далей і вобраз якіх захоўваем у сэрцы».

Другі невялікі рускамоўны твор «Экзамен в Падуе» надрукаваны як прадмова да публікацыі «падуанскіх» дакументаў, звязаных з першадрукаром, у № 8 часопіса «Нёман» за 1967 г. «Так Беларусь выдержала экзамен перед Европой» — канстатуе пісьменнік, спасылаючыся на атрыманне Ф. Скарынам вучонага звання доктара лекарскіх навук у італьянскай Падуі. Праз пяць гадоў, у 1517-м, з выхадам першай Скарынавай кнігі, Беларусь пацвердзіла свае права быць роўнай у шматмоўнай сям'і еўрапейскіх народаў, г. зн. паспяхова вытрымала ўжо другі экзамен.

Аднак вызначальнымі творамі У. Караткевіча пра Ф. Скарыну варта ўсё ж лічыць два наступныя эсэ: «Вера ў сілу дабрыні, або Сын Беларусі, сын Прагі» (напісана ў 1973 г. у Празе і апублікавана 11 сакавіка 1977 г. у газеце «Літаратура і мастацтва») і «Подзвіг Францыска Скарыны» (датуецца студзенем 1980 г., апублікавана ў № 4 часопіса «Беларусь»). Розныя паводле аўтарскага падыходу ад разгляду асобы Скарыны, гэтыя творы найбольш поўна характарызуюць талент Караткевіча ў напісанні эсэ. Найперш гэта выяўляецца ў выразнай дыялагічнасці твораў. Аўтар філігранна ставарае ў свядомасці чытача складанае няўлоўнае перапляценне мысленчых імпульсаў, якія выклікаюць узнікненне адразу думкі-згоды (з аўтарскай), а потым і думкі-перакананне (такой, як у аўтара).

Па-першае, гэта выяўляецца ў маркіроўцы суб'екта і аб'екта (аўтара і чытача) праз займеннікі. У эсэ нават *я* — гэта не толькі аўтарызацыйны маркёр, але і я суразмоўцы; інклюзіўны суб'ект *мы* характарызуе аўтара як чалавека сацыяльнага і абавязкова падключае чытача да параджэння аргументацыі; прамы зварот *ты (вы)* знішчае дыстанцыю паміж моўцам і прадметам гаворкі. Такім чынам Караткевіч паслядоўна выпрацоўвае ў чытача гістарызм мыслення (чым настойліва займаўся і праз мастацкую творчасць): «Кніга Быцця — і асвета? Кніга Царстваў — і гуманізм? Ці не замнога *мы* бяром на сябе, называючы Скарыну асветнікам і гуманістам? Дзеля таго, каб адказаць на гэта, трэба зірнуць на эпоху, у якую жыў гэты чалавек»; «*Ты* сучаснік Скарыны. Прычым адукаваны сучаснік. Якім паўстае перад *табою* свет?» Дасягненню названай мэты садзейнічаюць і пытаннева-адказавыя канструкцыі — эфектыўныя рытарычныя сродкі для актывізацыі чытацкай думкі, падтрымання дыялогу: «Што прывяло яго ў Італію?»; «Дзе Скарына правёў пяць гадоў пасля Падуі?», і рытарычныя пытанні, якія не патрабуюць адказу (у іх закладзена сцвярджэнне, што выклікае актыўны рух думкі рэцыпіента: згадзіцца / не згадзіцца з аўтарскім сцвярджэннем, прызнаць / не прызнаць сябе часткай соцыуму, якая так маркуе): «Без веры ў тое, што далёкія нашчадкі нашы будуць як багі — навошта жыць?»

Па-другое, У. Караткевіч, відаць, усё ж інтуітыўна, знаходзіць ключавое слова, якое будзе найлепш адлюстроўваць жыццё і дзейнасць першадрукара і яго подзвіг, — *святло*. Менавіта яно з метафарычным значэннем «тое, што робіць зразумелым навакольны свет, што дае пачатак чаму-н. радаснаму, робіць шчаслівым жыццё» становіцца канцэптам тэксту, у кампрэсіўнай форме тлумачыць пісьменніцкую інтэнцыю і рухае аўтарскую думку пры канструяванні эсэ: «Памогуць яго палкаму жаданню прынесці свайму народу *святло*, зрабіць яго хаця крыху шчаслівейшым»; «Але, называючы яго сярэдневяковым чалавекам, мы выпускаем з-пад увагі тую рысу, якая робіць яго чалавекам Адраджэння, чалавекам новага часу, нашым брáтам, — прагу да *святла*, нязгаснае імкненне да доблесці і ведаў». Канцэпт *святло* ўваходзіць у антанімічную парадыгму *(цемра, змрок)*, дзякуючы чаму пісьменнік будуе тэксты на частотным выкарыстанні антытэз. Менавіта цяжкасць пераходу ад *змроку* да *святла*, змаганне за яго з цемрашальствам складаюць, паводле У. Караткевіча, сутнасць подзвігу Ф. Скарыны.

Як адзначае Вольга Шынкарэнка, «у кожным з гэтых эсэ ў якасці асноўных крытэрыяў сутнасці і грамадзянскай пазіцыі героя-дзеяча пісьменнік вылучае разам з талентам непарыўную сувязь з народам, адданасць яму». Таму важная характарыстыка вобраза Ф. Скарыны — не толькі яго ўласнае імкненне да *святла*, але і жаданне прынесці асвету свайму народу: «І, магчыма, яшчэ ў той час зараджаецца ў душы юнака думка пра кнігу адносна танную, даступную, кнігу, якую мог бы трымаць у руках кожны і разумець — кожны. Кнігу на роднай мове»; «І таму, — і гэта галоўнае, — ён імкнецца не толькі сам ісці да зор, але, як Чалавек Новага, і "брацію сваю" цягнуць да іх». У першым сказе аўтар праз мадальны модус *(магчыма)* зноў актывізуе патэнцыйнага чытача, у другім сказе гэтую ж ролю выконваюць вобразныя сродкі, графічнае вылучэнне, устарэлая лексема. «Шлях да зор» звязвае вобраз Ф. Скарыны з асобнымі макраструктурамі эсэ «Твой зорны час» і з «Зорнымі часамі чалавецтва» С. Цвейга, у выніку ствараецца своеасаблівы часавы палілог, у якім прысутнічае мінулае, сучаснасць і будучыня. Гэтаму садзейнічае, без сумнення, і паглыбленая інтэртэкстуальнасць эсэ, у якіх, у прыватнасці, выкарыстана больш за 40 прэцэдэнтных імёнаў ад *Пталемея* да *Лютэра* і *Каралёва*.

## У СВАІМ СТЫЛІ

Знакаміты пісьменнік-публіцыст не абыходзіцца, зразумела, без дакументальнага складніка, але выкарыстанне фактalogіі з жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны арганічна ўключаецца ў структуру тэкстаў з дапамогай стылістычных сродкаў, у прыватнасці парцэляцыі: «Пачынаецца шлях. На ўсё жыццё. Упарты, настойлівы. Вечны паход, вечная вайна за веды і культуру. Па гразкіх дарогах радзімы, па дарогах чужых краін. Пад дажджом, пад пякучым сонцам, пад навальніцамі і снегам. Праз непрыхільнасць, недавер, жорсткасць, падазрэнні. Нават праз смерць». Кожны сказ прапанаванага фрагмента — «порцыя»-частка пісьменніцкай характарыстыкі публіцыстычнага вобраза: пераканансць першадрукара ў важнасці сваёй працы і яго імкненне, насуперак усім перашкодам, ажыццявіць задуму. Караткевіч таленавіта праз бяззлучнікавае спалучэнне аднародных членаў сказа, праз паўторы азначэнняў-эпітэтаў *(вечны паход, вечная вайна)*, праз вербальную *(дарогах радзімы, дарогах чужых краін)* і кантэкстуальную (супраць і прыродныя, і чалавечыя фактары) антытэзы далучае чытача да ўсведамлення ўсёй складанасці Скарынавага шляху. Тэкст аднаго эсэ з неабходнымі для разгортвання вобраза датамі складаецца з анафарычных макраструктур: «1504 год. Юнак у Кракаўскім універсітэце Ягелонаў»; «5 лістапада 1512 года. Падуя. Храм святога Урбана»; «Дык вось. Прага. 1517 год». У другім эсэ такія ж анафарычныя канструкцыі выңікуюць аўтарскае (і чытацкае) перакананне ў тым, што праца Ф. Скарыны не была марнай:

«*Але ніхто не пасмяецца* з нашай працы, з узроўню нашага мастацтва (вось у чым яго неўміручая сіла!). І *ніхто не пасмяецца* з нашых намаганняў у нашай цяжкай, крывавай, часта трагічнай сечы за будучыню чалавека. З нашай бітвы, у якую адныімі з першых уступілі яны... мы... дзеці нашы. Бітвы, дзе адным з застрэльшчыкаў быў Францыск Скарына. <...>

*Ніхто не пасмяецца* з таго, што яны і мы — у меру сілаў сваіх — рассунулі Сусвет, спазналі частку ісціны. *Ніхто не пасмяецца* са Скарыны і з яго дзяцей, з іхняй думкі, што дала Польшчы — Міцкевіча, Русі — Сімяона Полацкага і Дастаеўскага, сабе — Багдановіча, Купалу, Коласа і іншых, "імёны ж іх ты, Госпадзі, вясі"».

***

«Заўсёды цяжка гаварыць аб тым, што любіш», — прызнаецца У. Караткевіч у адным эсэ. Уяўляецца, што гэты цяжар ператвараўся ў пісьменніка ў глыбока прадуманы, дакументальны і вобразнаэмацыйны, але мала дасягальны для поўнага даследавання слоўны партрэт Ф. Скарыны. У гэтым, верагодна, і выяўляецца Талент, творы якога існуюць у кантынууме незалежна ад аўтара, знаходзяць сабе новых суразмоўцаў і ўплываюць на іх як на людзей XXI стагоддзя, відаць, па-іншаму. Але галоўнае — *святло*, да якога імкнуўся Ф. Скарына і настойліва вёў да яго ачышчальнага агеньчыка праз *кнігу* сваіх сучаснікаў, — застаецца. У. Караткевіч увідавочніў немагчымасць для Скарыны патойбаковага жыцця — ён наш сучаснік, ён «у плеядзе тых, самых-самых першых, што зрабілі лепшых дзяцей чалавецтва такімі, якія яны ёсць сёння і якімі яны будуць давеку, пакуль ёсць пад небам Сусвету Чалавек».

**Пятро ЖАЎНЯРОВІЧ**



## Ганна ЧУМАКОВА

***

Спіць вакзал…
Ён таксама стомлены
Ад гасцей сваіх званых/нязваных…
Заплятае карункі над столяю
Белаваты парок дыхання.
Цішыня пранізана шэптамі…
Цемру плавіць святло ліхтарнае…
Мітусліваю зграйкай шэраю
У куточку туляцца… мары

Чалавечыя…
Не-да-рэч-ны-я…
Не прайшлі мо дагляд на мытні?..
Не змясціліся у заплечніку?..
Незаўважна з кішэні выпалі?..

Ці з душы?..
Нібы фанцік цукерачны
У сшарэлым апалым лісці
(Чалавечыя…
Зня-ве-ча-ны-я…)
Ледзь прыкметна, згасаючы, бліскаюць

І чакаюць…
У зале чакання…
Не, не літасці гаспадаравай!.. —
Адыходзіць цягнік на світанні
У краіну няздзейсненых мараў…

***

Запалю...
Чаму ж не?!.
Хоць даўно не брала цыгарэту…
(Колькі ж гэта мінула ўжо
са студэнцкіх гадоў?..)
Вецер, холад і золь,
Толькі сум мой, напэўна, не з гэтага —
Вось прыехала сёння… у госці…
У «свой» Рагачоў…

Колькі ўжо прыязджаю,
А сёння нібыта чужая…
Разгубілася…
Здаўся такім беспрытульным перон…
І няма каму жаліцца…
Дым апякае і джаліць,
І віруе пад столлю,
Нібыта туман над Дняпром…

Нат матуля не супраць —
Зноў бацькам запахла ў кватэры —
«Не дажыў!.. — уздыхне, —
Унучкі не ўбачыў, на жаль!..»
Адвярнуся ў акно,
У ранак па-восеньску шэры,
Не пабачыўшы… быццам бы,
Як яе вусны дрыжаць…

Прагартаю альбомам старонкі
сваёй маладосці:
Фотаздымкі нібыта з дакорам
глядзяць на мяне…
Ёлкі ком праглыну…
Заспяваю: «Ой, косю, мой косю!..» —
І заплачуць дзве маці,
А трэцяя смутна ўздыхне…

***

Кожны твой верш — пра мяне!..
Ці ведаецца,
Ці не верыцца…
(Я — у сваёй мане —
шчырая верніца!..)

Кожны ўздых твой — мой
Праз ростані і прорвы…
Лёс напаіў з адной
Студні дняпровай…

Роднай вады палын
Мёд чужы не спатоліць!..
Кожны радок
Стыне
Тваім
Болем…



## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ

***

Была яна як ноч.
Ёй здрадзіў я калісьці —
З табой, святло маё,
Знайшоў свой неспакой.

Зноў бляск любімых воч.
І — ціхі крык: «Вярніся…»
Не… Стукае галлё
У шыбіну… Якой

Я уяўляў цябе?
Далёкаю жар-птушкай,
Чыё цяпло згасае
У памяці маёй?..

Знікаюць у журбе
Арэлі шчасця. Гушкаў
Калісьці іх у маі…
Ўрачыстай цішынёй

Адказваеш мне ты...
Чырванакрылы сон
Убачым мы з табой —
Зары адчайнай ранне.

Ды спалены масты,
Плыве расстання звон,
Асветлены журбой
Бяскрылага кахання…

***

Дзе сыходзяцца мора і неба —
Там, напэўна, і мой выраў…
Больш нічога мне і не трэба:
Я нібыта Арфей з лірай.

У мінулым — шчасце й каханне.
Прад вачыма — цень Эўрыдыкі.
З пекла горняга — нератаванне.
Сэрца рвецца ў нямым крыку…

Ты хаваеш сваю надзею —
Толькі цень твой заўжды перад Богам…
Каралеўская вяне лілея.
Мне не трэба ўжо больш анічога…

***

Застылі воблакі — іх спёка не кранае.
І вецер сцішыўся. Цяпер ён, лёгкі брыз, —
Над морам зеляніны. Патанае
Свет у спякоцці. Ліпеньскі капрыз —
Дождж-гастралёр, кароткі, як сумненне
У мімаходдзі вечаровых мар…
Дажджу слязінкі — радасці імгненне
Ў тваіх вачах, каханая. Пажар

Зары шматабяцальнай вечаровай
Абвесціць прахалоды забыццё…
Яна ж падорыць золак. Каб нанова
Пачаўся дзень, як юнае жыццё…

***

Несустрэтае шчасце… Якое яно?
Невычэрпнае, бы акіян?
Неспазнанай любві маладое віно?
Летуценна-юрлівы падман?

Так хвалюе душу веснавы неспакой!
Свет увесь — у шчаслівым чаканні.
Ўсе мы любім вясну менавіта такой —
Як жанчыну, што прагне кахання…

***

Я дыхаю табой,
жыву табой,
Мая каханая,
ты мой анёл нябесны,
Ты каралева летуценняў-мрой…
Так хочацца,
нарэшце,
уваскрэснуць
Душой.
Вады крынічнае жывой
Напіцца і адчуць,
што маладзею.
Няхай вясельны
тчэцца наш сувой
І зяе зорка
з назваю Надзея…


Фота Кастуся Дробава.



## Наталля САВЕТНАЯ

## Жоўты колер

Колер шчасця і сонейка,
І світальнай пары,
І гарэзлівых промнікаў —
Жоўты колер, сябры!

Ахінула зноў плечы я
Незвычайным святлом —
І з далоняў струменьчыкам
Рыфмаў шмат пацякло.

Па нябёсах пакоціцца
Шар, руйнуючы зло.
Цемры ўжо не да поскудзі —
Не запляміць святло!

Хвалі вельмі стараюцца,
Раскідаюць бурштын —
Раптам поле запаліцца
І прастор лугавін.

Дзьмухаўцы залацістыя,
Быццам сонца сыны, —
Для ўсіх нас прамяністыя
Падарункі вясны.

## Па крузе

Стрэчы, расстанні… Спяшае цягнік.
Стрэлачкам часу не ведаць прыпынку.
А святлафор пазірае на ўсіх
Жоўтым святлом скрозь жалезную скрынку.

Заўтра і ўчора ніяк не схапіць.
Колы імклівыя круцяцца шпарка…
А за акенцам з усмешкай глядзіць
Сённяшні дзень, гаманлівы і яркі.

***

Далей ад праблем неадкладных,
Пакінуўшы спраў карагод,
Бягу па прыступках драўляных.
І вось ён — рачны параход.

На борт узлячу, як на волю,
З палону бясконцых трывог.
Пакіну касцюмы і ролі,
І слухаўкі гучны званок.

У лёгкай, бязважкай сукенцы,
І пляжную торбу ў руку…
Няўжо гэта мне не здаецца?
…Сляды на гарачым пяску,

І тут жа рака-чараўніца
Падорыць душэўны спакой,
Ачысціць святлою вадзіцай
І простай малітвай сваёй.

***

Ты талент мастака не даў мне, Божа,
Ды ўсё ж рука да палатна імкне.
У клетку аркуш ім паслужыць мне,
Дзе ручкай, а не пэндзлікам прыгожа
Вясновы лес ужо малюю я.
Спявае ў лесе тым душа мая.

Дадам я слоў і радасных, і змрочных,
Каб тонкія адценні мне злавіць.
Ужо стралой уверх імчыцца сныць,
А вось Анюціны блакітнавочкі,
Раптоўна зорны зладзіўшы сюрпрыз,
Перакулілі неба мне ў эскіз.

А што на ім? Азёры, зеляніна
І вечныя размовы стромкіх дрэў,
І салаўіны чуецца напеў,
І неба бачна з клінам жураўліным.
У клетку аркуш у маіх руках.
На ім вясна — у строфах і мазках.

## З акна машыны

Дарога. Чорны лес. Бязмежнасць поля.
І ціш балота страшыць мой пагляд.
Насустрач льецца стужкаю шматстваольнай
Бліскучы серабрысты светлапад.

Як малака струменьчыкі, бярозы
Падорацць лёгкасць, чысціні глыток.
І мала, мала слоў бадзёрай прозы,
Патрэбен тут паэзіі радок!

Рыфмую так натхнёна і паспешна,
Дарогу пачакаць крыху прашу:
— Спыніся, шлях! На пакручастых сцежках
Краса прыроды грэе мне душу!

**Пераклад з рускай**
**Аксаны ЯРАШОНАК**

# Мара пра Рыгу

*Апавяданне*

Міхась СЛІВА



Перабіраючы паперы ў дамашнім архіве, Алесь Мікалаевіч натрапіў на лісток з настольнага календара. Пазначаная на ім дата сведчыла, што лісток трапіў у шматлікія паперы гаспадара ўжо больш як два дзясяткі гадоў таму. Нічога дзіўнага — у Алеся Мікалаевіча захоўваліся ў папках паперы і яшчэ даўнейшыя. Надзвычай важнымі сталіся запісы на — лістку: адрас і нумар тэлефона, зробленыя чужой рукой.

Алесь Мікалаевіч быццам акунуўся ў мінулае. Перад вачыма паўстала Галіна Антонаўна, загадчыца лабараторыі, доктар біялагічных навук, прафесар. Неардынарная жанчына ў росквіце гадоў і творчых здольнасцей.

...У той дзень Алесь Мікалаевіч, старшы навуковы супрацоўнік аддзела прапаганды і ўкаранення навуковых распрацовак у вытворчасць, рыхтаваў чарговую справаздачу ў галіновае міністэрства. Сядзеў і ламаў галаву, як больш поўна і, галоўнае, па спецыяльнай форме паказаць дасягненні сваіх калег за паўгоддзе. Што самае смешнае і прыкрае, усе найважнейшыя дадзеныя ён перадаў яшчэ на мінулым тыдні, але сёння зноў прыйшла папера з міністэрства, у якой патрабавалася адлюстраваць тое ж, але па іншай форме. Ён не ўтрымаўся, пазваніў куратару ў главк: патрэбныя матэрыялы ўжо ёсць, можна ўзяць у супрацоўніка, які працуе ў тым жа кабінеце, толькі за іншым сталом. «А вы мне зрабіце самі па маёй форме!» — адказаў высакамерны малады чыноўнік. Вось Алесь Мікалаевіч і займаўся гэтай пісанінай.

Дзверы нечакана адчыніліся, і ў кабінет зайшла Галіна Антонаўна. Высокая, з доўгімі стройнымі нагамі, абаяльная, яна падабалася многім мужчынам іхняй установы. І не толькі, зразумела, іхняй, бо хіба можна было раўнадушна глядзець на такую жанчыну! Алесь Мікалаевіч, які не быў, як кажуць, манахам, таксама часта затрымліваў свой позірк на хвалюючай постаці Галіны Антонаўны. Праўда, толькі калі нікога не было побач. Асабліва жонкі.

— Зайшла вось да вас з навіной, — прысеўшы на крэсла пасля запрашэння гаспадара, загаварыла загадчыца лабараторыі. — Пераязджаю я да сына ў Рыгу. Ён служыць там афіцэрам, мае жыллё. Ужо і працу мне знайшоў.

Алесь Мікалаевіч крыху разгубіўся: з чаго гэта прафесар дзеліцца з ім сваімі асабістымі планамі? Слухаў уважліва, з цікавасцю.

— Дык вось, я даю вам свой будучы адрас і нумар тэлефона. Калі ласка, званіце мне, а пашанцуе трапіць у Рыгу — заходзьце! Буду вельмі рада!

З прыязнай, ласкавай усмешкай Галіна Антонаўна працягнула яму лісток календара, дзе каліграфічным почыркам былі запісаны рыжскі адрас і нумар тэлефона. Усхваляваны Алесь Мікалаевіч падхапіўся са свайго крэсла, стаў дзякаваць жанчыне за такі давер. Радасны і збянтэжаны, ён не ведаў, што рабіць далей.

На развітанне Галіна Антонаўна падала руку. Гарачая хваля пранізала яго да самага сэрца...

Мінула некалькі гадоў. Аднойчы прафсаюзны камітэт іх установы выдзеліў Алесю Мікалаевічу пуцёўку ў санаторый, які знаходзіўся на беразе Балтыйскага мора.

— Будзе табе, даражэнькі, добрае лячэнне тваіх хвароб, — ветліва сказаў тады старшыня прафкама Іван Белагуб. — Ты сваёй працай даўно ўжо заслужыў паездку ў яшчэ лепшае месца, чым рыжскае ўзмор'е, — дадаў ён, калі Алесь Мікалаевіч пачаў аднеквацца, адмаўляцца ад пуцёўкі: маўляў, шмат тэрміновай працы навалілася. — Тым больш што і ў Рызе ты ніколі не быў!

***

Санаторый «Балтыйскія зоры» каля самага мора. Уражвала незвычайная прыгажосць: былі тут і сосны, і дзюны, і блікі сонца на вадзе. Адным словам, мара!

Алесь Мікалаевіч вырашыў кожную вольную хвіліну аддаваць знаёмству з цудоўным горадам — Старой Рыгай. Ад калег, якія неаднаразова бывалі тут, ён ужо ведаў, што перш за ўсё трэба наведаць Домскі сабор, паслухаць арганны канцэрт, бо сабор знакаміты сваёй выдатнай акустыкай і адным з лепшых у Еўропе арганаў. Тут кожны дзень у поўдзень, а таксама вечарамі граюць канцэрты. Яшчэ адно надта цікавае месца — Яуніела (яна ж — Бейкер-стрыт, яна ж — Кветкавая вуліца). «Наведай гэтую вуліцу», — раілі сябры, бо яна — кінематаграфічная. У фільме «17 імгненняў вясны» тут знаходзілася тая самая канспіратыўная кватэра, у акне якой так і не заўважыў кветку прафесар Плейшнер. А ў фільмах пра Шэрлака Холмса на ёй размяшчаўся дом знакамітага сышчыка.

Алесь Мікалаевіч звярнуў увагу, што цэнтральныя вуліцы літаральна ўсыпаны будынкамі з вычварнымі расліннымі дэкорамі, маскамі жанчын і ляпнінай у выглядзе драконаў ды іншых міфічных істот. Вуліца Альберта, самая вядомая, прыцягнула яго ўвагу цэлымі натоўпамі турыстаў з фотаапаратамі. Алесь Мікалаевіч даведаўся, што большую частку дамоў на гэтай вуліцы спраектаваў бацька рэжысёра Сяргея Эйзенштэйна — Міхаіл Эйзенштэйн. Наогул, Рыга можа ганарыцца мноствам архітэктуры ў модным у пачатку дваццатага стагоддзя югендстылі (або арт-нуво).

Гуляючы па вуліцах горада, Алесь Мікалаевіч увесь час думаў пра Галіну Антонаўну. «Яна ж недзе тут, раптам нават сустрэну проста на вуліцы! — роіліся думкі. — Як было б здорава! Абхапіў бы яе ад радасці на вачах у шматлікіх мінакоў. Нездарма ж яна прыйшла тады да мяне развітацца, ды і наогул — дала свой адрас і нумар тэлефона і прасіла тэлефанаваць. Не кожны мужчына можа пахваліцца такім шчасцем: прыгожая і адначасова разумная жанчына аддала перавагу менавіта мне!» І ў той жа час станавілася нейк страшнавата ад сустрэчы: а раптам ён не так зразумеў яе — буйнога вучонага ў сваёй галіне, чалавека сур'ёзнага, загадкавага нават. Сапраўды, за многія гады, калі яна працавала ў навуковай установе, амаль ніхто не ведаў пра яе асабістае жыццё. А ён, Алесь Мікалаевіч, хто? Усяго толькі старшы навуковы супрацоўнік, кандыдат навук, які ўсё жыццё займаецца папяровымі справамі...

І вось аднойчы не вытрымаў, рашуча набраў нумар тэлефона. Ехаць на вуліцу Гогаля, дзе Галіна Антонаўна жыла з сынам, не вельмі хацелася, бо дабірацца ў новы мікрараён было нязручна, да таго ж сама яна прапанавала сустрэцца ў Старым горадзе, каля Царквы святога Пятра — галоўнага збудавання сярэдневяковай Рыгі.

— Я люблю там прагульвацца, — усхваляваным, але, як заўсёды, чыстым, мілагучным голасам сказала Галіна Антонаўна. — А заадно пабачыш аглядную пляцоўку, якая знаходзіцца на ўзроўні сямідзесяці двух метраў.

Гэтыя мясціны ўжо спадабаліся і Алесю Мікалаевічу. У час няспешнай прагулкі Стары горад адкрываўся ва ўсёй сваёй мнагамернасці. Тут былі цэрквы, шматвекавая архітэктура з чарапічнымі дахамі, вузкія вуліцы, вымашчаныя брусчаткай і, галоўнае, дух сярэднявечча ў спалучэнні з прыкметамі сучаснага жыцця.

Яшчэ за паўгадзіны да прызначанага часу сустрэчы ў Алеся Мікалаевіча пачало мацней біцца сэрца, ахоплівала хваляванне. Ён ніколі не здраджваў жонцы, хоць тая і не верыла яму. Між тым у думках часта бываў адзін на адзін з жанчынамі, а падабаліся яму многія. Аднак калі добра падумаць, якая ж гэта здрада — сустрэча на вуліцы (хоць і па дамоўленасці) былых таварышаў па працы ў чужым горадзе? А ўвогуле, ён ужо вольны чалавек, можа рабіць што захоча...

Нарэшце Алесь Мікалаевіч дачакаўся — яшчэ здалёк убачыў Галіну Антонаўну. Статная, у цудоўнай сукенцы колеру марской хвалі, якая вельмі пасавала да яе вялікіх васількова-блакітных вачэй, з густымі светлыміваласамі, што локанамі спадалі на плечы, у белых элегантных чаравічках і з сумачкай, разгледзець якую ён не паспеў, жанчына ўся аж свяцілася. Алесь Мікалаевіч даўно ўжо, назіраючы, зрабіў для сябе вывад, што ёсць два тыпы жанчын: тыя, якія з дапамогай адзення ўпрыгожваюць сябе, і тыя, ад якіх саміх адзенне становіцца прыгожым. Зараз жа ён не думаў пра гэта, а проста з заміраннем сэрца любаваўся. Галіна бадзёрым крокам наблізілася і трапяткімі рукамі абхапіла яго за шыю. Тройчы пацалавала ў шчокі і радасна засмяялася.

У Алеся Мікалаевіча перахапіла дыханне і адначасова стала нейк лягчэй. Яны зазірнулі адно аднаму ў вочы і не маглі нарадавацца, што нарэшце сустрэліся. Галіна Антонаўна адразу ўзяла яго пад руку і стала распытваць, дзе ён лечыцца і адпачывае, як бавіць вольны час. А потым гаворка перакінулася на агульных знаёмых, сяброў, справы ва ўстанове, дзе калісьці разам працавалі.

— А што гэта мы ўсё «выкаем»? — перапыніла размову Галіна Антонаўна. — Давай ужо будзем на «ты». Мы ж яшчэ не старыя, дый субардынацыю захоўваць не трэба, гэта ж не на вучоным савеце, дзе кожны ведаў сваё месца ў залежнасці ад навуковых ступеняў, званняў, пасад. Зараз мы на роўных! — і яна пяшчотна прыціснулася да Алеся Мікалаевіча, у якога зноў узмоцнена забілася сэрца. — Давай, дружа, зойдзем перакусім!

І яны накіраваліся ў адзін з рэстаранаў дамашняй кухні «Ліда», якія ўжо даўно сталі візітнай карткай Латвіі і адным з самых пазнавальных брэндаў. Там заказалі каньяку і некалькі фірменных страў. У гэтым Алесь Мікалаевіч давяраўся густу Галіны Антонаўны.

Пасля рэстарана доўга блукалі па горадзе.

— Раскажы крыху пра сябе, — узяла ініцыятыву ў свае рукі Галіна. — Як сямейныя справы?

— Ды хваліцца асабліва няма чым, — памаўчаўшы, ціха адказаў Алесь. — З жонкай падалі на развод, але пакуль што існуем у адной кватэры. Заклалі новы дом для супрацоўнікаў, усё ніяк не дабудуюць. Там мне абяцаюць выдзеліць аднапакаёўку. Чакаю вось. Дапамагаю сыну-студэнту, вучыцца ў БДУ... А жонку я ніколі не любіў. Адсюль і ўсе праблемы ў нашым сямейным жыцці.

— Так, сапраўды, сямейнае шчасце — справа няпростая, — задумліва прамовіла Галіна Антонаўна. — Як напісаў у свой час Генрых Шылер, калі я ненавіджу, я штосьці адымаю ад сябе; калі я люблю, я абагачаюся тым, каго люблю. Паслухай, Алесь, былі ж і ў вас з жонкай калісьці светлыя хвіліны, вы ж пабраліся шлюбам не проста так...

— У мяне, як і ў многіх маладых людзей, у свой час здарылася своеасаблівая хвароба, якую цяпер псіхолагі называюць словазлучэннем «любоўная залежнасць». Гэта, аказваецца, не від кахання, а від душэўнай хваробы, які стаіць у адным шэрагу з алкагольнай, наркатычнай і гульнявой залежнасцю. І самы прыемны момант у жыцці залежнага — гэта прадчуванне сустрэчы, якое падобнае да эйфарыі, што ўзнікае ў алкаголіка ў прадчуванні выпіўкі. Так здарылася і ў маім жыцці. А потым ва ўзаемаадносінах з жонкай з'явілася многа болі і пакут.

— Так, так, — падтрымала яго Галіна Антонаўна. — Пачуццё «я не магу жыць без гэтага чалавека» або «я не магу быць шчаслівым без гэтага чалавека» — прыкмета залежнасці. А каханне ж — гэта свабода. Людзі могуць быць разам або не, могуць нават расстацца назаўсёды, але таму, хто кахае, добра ўжо ад таго, што каханы ёсць. Як, напрыклад, у мяне! — з вялікім хваляваннем, амаль шэптам прамовіла Галіна Антонаўна і павярнулася тварам да Алеся Мікалаевіча. — Я ж даўно кахаю цябе! Няўжо ты не здагадваўся? Мне заўсёды было хораша знаходзіцца побач, проста працаваць разам, у адным калектыве, ведаць, што ты — ёсць! Прызнавацца ж табе я не хацела, каб не пашкодзіць твайму сямейнаму шчасцю. Бачачы, што ты заўсёды вясёлы, я лічыла, што ў цябе ўсё добра. І не дазваляла сабе выдаваць сваю тайну, каб не парушыць твой спакой. Хаця я была ўжо адзінокая — муж памёр яшчэ да таго, як я прыйшла да вас працаваць. Як сказана ў Свяшчэнным Пісанні, кахаць — значыць атрымліваць асалоду ад шчасця іншага і шчасце іншага прызнаваць за сваё. Любоў — вось той талент, аддадзены ў рост, з дапамогай якога кожны абагачае і вырошчвае сябе, упітвае ў сябе іншага. Якім чынам? — праз аддачу сябе. Асабіста я лічу, што сапраўднае шчасце — гэта кахаць, а не набыць чыёсьці каханне. Дарэчы, пра гэта ж сказаў і Павел Фларэнскі: «Чалавек атрымлівае па меры таго, як аддае сябе; калі ў каханні поўнасцю аддае сябе, тады атрымлівае сябе ж, але зацверджаным, паглыбленым у другім, гэта значыць падвойвае сваё быццё». Ты, Алесь, відаць, здзіўляешся, што я, доктар біялагічных навук, цытую Евангелле. Нічога дзіўнага: мой бацька быў святаром, гэта па-першае; а па-другое, кожны цывілізаваны чалавек, а тым больш вучоны, павінен ведаць Кнігу кніг — Біблію, — Галіна Антонаўна з замілаваннем глядзела на Алеся Мікалаевіча, які ў гэты момант быў вельмі ўзрушаны.

— Я зусім не здзіўляюся, я проста ў захапленні ад цябе! — упершыню Алесь Мікалаевіч звярнуўся да яе на «ты». — Ад шчасця ў мяне ажно закружылася галава! Пасля тваіх слоў мне хочацца лятаць... з табой! — і ён рашуча абняў жанчыну, прыціснуў да сябе, стаў горача цалаваць у вусны, вочы, шчокі. А потым не вытрымаў — апусціўся на калені, моцна прыціснуўся галавой да яе стройных, прывабных ног, якія яго заўсёды хвалявалі...

...Алесь Мікалаевіч адарваў позірк ад лістка з календара з адрасам і нумарам тэлефона. Цяжка ўздыхнуў і з сумам падумаў: «К старасці ў чалавека як усё больш даюць пра сябе ведаць цялесныя раны, так і сэрца пачынаюць вярэдзіць успаміны маладосці, а дакладней — яе памылкі». Таму што ў санаторый ён, дурань, тады не паехаў — хацеў закончыць тэрміновую работу. Не паехаў і іншым разам, усё не было калі. А потым закрылася жыццё. З Галінай Антонаўнай ён так і не сустрэўся. Застаўся на ўспамін толькі лісток з календара...

# Справа «Жалейкі»

## Як забаранялі першы зборнік Янкі Купалы

**Нягледзечы на тое, што ўжо не адно пакаленне даследчыкаў беларускага прыгожага пісьменства плённа працуе на літаратурна-гістарычнай ніве, адкрываючы новыя падрабязнасці, факты, імёны, у архіўных сховішчах і на паліцах бібліятэк усё яшчэ застаюцца «непрачытаныя» старонкі… Вельмі каштоўны матэрыял дае зварот менавіта да кнігавыдавецкай гісторыі, распрацоўка гэтага пытання дазваляе шмат у чым па-іншаму зірнуць на ўжо вядомыя факты беларускага літаратурнага руху пачатку ХХ стагоддзя.**



У аўтабіяграфіі, якую Янка Купала даслаў Я. Карскаму ў кастрычніку 1919 года, паэт напісаў: «Якія былі адносіны ўраду да мяне? Трудна сказаць. Хіба — ніякія. Вось толькі хіба тое, што мая кніжка "Жалейка" была канфіскавана і выдаўцоў яе цягалі ў суд. Але праз пратэкцыю канфіскату знялі. Рукапісы мае ў Вільні ў "Нашай Ніве" была захапіла ахранка, пасля часць вярнула, а часць прапала. За ніякія справы ні разу не судзіўся. Толькі ў час вайны канфіскавалі адзін нумар "Нашай Нівы" — і мяне, як рэдактара, вызываў следавацель...».

Першы зборнік паэзіі Янкі Купалы «Жалейка» быў выдадзены ў сакавіку 1908 г. у Пецярбургу беларускай выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца» тыражом 4300 асобнікаў у афармленні мастака Якубоўскага. Падрыхтоўка да выдання пачыналася ў Мінску стараннямі Уладзіміра Самойлы і мелася адбыцца ў выдавецтве «Мінчук». Доказам гэтага з'яўляюцца дакументы названага выдавецтва, сярод якіх захавалася распіска мінскай машыністкі С. Свірноўскай ад 1 верасня 1907 г.: «Я, нижеподписавшаяся, получила от В.И. Самойло за перепечатку стихотворений Ян. Купалы за 10 1/2 листов считая по 60 к. лист — 6 р. 30 коп и 30 к. за бумагу — итого 6 р. 60 к» (БДМЛМ. Ф.3, адз. зах. 39, л. 20). Праз пэўны час «на переписку соч. Янука Купалы» было выдаткавана яшчэ 4 рублі (БДАМЛМ. Ф.3, адз. зах. 39, л.22). Але, відавочна, фінансавае становішча «Мінчука» не дазваляла ажыццявіць выданне канчаткова, і У. Самойла пераслаў рукапіс зборніка ў Пецярбург Браніславу Эпімах-Шыпілу, які зрабіў усё для таго, каб ён быў выдадзены выдавецкай суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца». 11 сакавіка 1908 г. газета «Наша ніва» паведамляла, што першы зборнік паэзіі Я. Купалы «Жалейка» выйшаў з друку і што кошт зборніка мае 50 к.

Некалькі цікавых фактаў да гісторыі «Жалейкі», якія адбыліся паміж паведамленнем пра яе выхад і забарону, дадаюць дакументы рэдакцыі газеты «Наша ніва», якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Рахунак беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» ад 4 кастрычніка 1908 г., дасланы ў рэдакцыю газеты, сведчыць, што 1 ліпеня 1908 г. на адрас рэдакцыі было паслана «100 экз. У 50 к. = 50 р. і 5 у 80 к. = 4 р.», а 4 кастрычніка, у дзень складання рахунку, яшчэ «200 экз. У 50 к.» (БДАМЛМ. Ф.3, воп. 1, адз. зах. 69, л. 9 адв.).

Трэба думаць, што пэўная частка накладу была даслана для продажу, ці, як пісалі, «на камісію», і ў Мінск, у выдавецкую суполку «Мінчук». Цягам двух месяцаў у Мінску і Вільні з'явіліся рэцэнзіі на зборнік: у Мінску ў газеце «Минское эхо» за 9 ліпеня 1908 г. Ядвігіна Ш., у Вільні ў «Нашай ніве» за 15 жніўня 1908 г. Уладзіміра Самойлы. 23 жніўня, на гэты раз у газеце «Минский курьер», У. Самойла змясціў яшчэ адну рэцэнзію пад назвай «Вялікае свята».

Можна справядліва меркаваць, што зборнік «Жалейка» паспеў набыць папулярнасць і прыцягнуць увагу шырокай чытацкай публікі, перш чым надышлі для яго аўтара і яго выдаўцоў трывожныя дні ў чаканні прысуду.

Цікавасць праявіў не толькі шараговы чытач, але і параўнальна нядаўна ўзніклы замест Цэнзурнага камітэта Часовы камітэт па справах друку ў Вільні, які кіраваўся ў сваёй дзейнасці зацверджанымі 26 красавіка 1906 г. новымі «Часовымі правіламі» для неперыядычнага друку. Часовы камітэт надзяляўся, акрамя ўсяго, правамі надзору за тыпаграфіямі і кніжным гандлем. Менавіта Часовы камітэт па справах друку ў Вільні 22 верасня 1908 г. накіраваў у Санкт-Пецярбургскі Камітэт па справах друку пры Міністэрстве ўнутраных спраў адносіну за № 351: «Препровождая при сем три брошюры на белорусском наречии под заглавиями: 1. "Жалейка" Янкі Купалы. Пецярбург, 1908; 2. "Смык беларускі" Сымона Рэўкі. Пецярбург, 1908; 3. "Дудка беларуская" Мацея Бурачка. Пецярбург, 1908, Виленский Временный комитет по делам печати имеет честь покорнейше просить С-Петербургский комитет с возвращением названных брошюр почтить уведомлениием, могут ли они быть допущены к обращению. Председательствующий А.Кеммерлинг. Секретарь И.Ф. Гружевский». (Тут і далей тэкст дакументаў з указаннем нумару старонкі прыводзіцца паводле: С.Х. Александровіч, В.С. Александровіч. Беларуская літаратура ХІХ — пачатку ХХ ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мінск,1978. С.106. Арыгінал захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве Літвы. Ф.1240, воп.1, адз. зах. 53, л.52.)




14 кастрычніка 1908 г. адбылося пасяджэнне Санкт-Пецярбургскага Камітэта па справах друку пры Міністэрстве ўнутраных спраў, на якім была прынята пастанова прасіць аб налажэнні арышту на зборнік і прыцягненні да судовай адказнасці аўтара і выдаўцоў. 5 лістапада 1908 г. Камітэт па справах друку накіраваў на імя пракурора Санкт-Пецярбургскай судовай палаты адносіну за № 2575: «В С.-Петербургский Комитет по делам печати поступила брошюра на белорусском наречии (напечатанная русским шрифтом) под заглавием "Жалейка" (Дудочка) Янки Купалы. Издательство "Загляне сонца і ў наша аконца", № 6. Цена 50 коп., 10 печ. лист. 4300 экземпляров. Типография К. Пянтковского (Большая Подъяческая, № 22). Названная брошюра содержит ряд стихотворений, более или менее близких одно к другому по характеру их содержания. Во всех произведениях Янки Купалы (за исключением нескольких переводных) описывается тяжелая, полная лишения и труда жизнь белорусского крестьянина. Упорный беспросветный труд и вместе с тем хроническое недоедание, болезни, холод, словом, неизбывная нищета — вот основная нота, властно звучащая в стихотворениях Купалы. Сравнивая жизнь крестьянина с тем, как живут помещики, чиновники и другие, Янка резко нападает на современный несправедливый, по его мнению, порядок вещей, при котором может иметь место, с одной стороны, — праздная и в тоже время сытая и обеспеченная жизнь одних людей, с другой — труженическая и, несмотря на это, полная нужды и лишений жизнь крестьян. Глубоко скорбит автор и о том, что народ не пользуется той свободою, при которой жизнь его не могла бы быть так несчастна и безотрадна. Содержание двух стихотворений, из числа написанных на указанную тему, должно быть признано в особенности преступным.

Первое из них "Песня вольнага чалавека" (стр. 48-49) говорит о том, что всякого рода насилия "подлых" деспотов, направленных к тому, чтобы заковать в кандалы народную свободу, убить ее мечом палача и петлею — бесцельны, ибо как нельзя загасить солнце, так нельзя уничтожить стремление народа к свободе и чем более народ угнетен, тем более рвется он к свободе. В изложенном содержании стихотворения "Песня вольнага чалавека" нельзя не усмотреть открытого возбуждения к действиям явно бунтовщическим, т. е. преступление, предусмотренное п. 1 ст. 129 Угол. Улож. Изд. 1903 г.

Во втором стихотворении "Ах, ці доўга…" (Долго ли еще? Стр. 19-21), описав тяжелую трудовую жизнь мужика, автор говорит, что всякий, даже ничтожный заработок мужика отбирается на чинш и на подати, тогда как бог даровал землю крестьянам и не указал собирать за нее подати и требовать чинш. На это, однако, внимания и не обращают: "дерут" с мужика деньги за землю и продают на подати последнюю коровенку. Кто виноват в этом? — спрашивает автор — отвечает: много виноваты в этом крестьяне. Таким образом, указывая на несправедливость требования податей и чинша и обвиняя крестьян в том, что они сами виноваты в этом, что такая несправедливость существует, автор тем самым, несомненно, возбуждает крестьян к неплатежу податей, т.е. совершает преступление, предусмотренное п. 3 ст. 129 Угол. Улож.

На основании изложенного С.-Петербургский Комитет по делам печати постановил: 1) привлечь к законной ответственности, по силе п.п. 1 и 3 ст. 129 Угол. Улож. Изд. 1903 г., виновных в напечатании брошюры "Жалейка" и 2) наложить на нее арест на основании ст. 3 отд. IV.

Сообщая о сем, в дополнение к отношению своему от 14 минувшего октября за № 2411, Комитет имеет честь покорнейше просить Ваше Превосходительство возбудить судебное преследование против автора брошюры Янки Купалы (сведений о нем в Комитете не имеется), а равно и против других лиц, могущих оказаться виновными по тому же делу. Экземпляр брошюры при сем препровождается.

Подписал: За Председательствующего Член Комитета Граф Головин Скрепил: Секретарь Велене». (С. 236 — 238. Арыгінал захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 775, воп. 9, адз. зах. 295, лл. 2-3).

У той жа дзень, 5 лістапада 1908 г., Санкт-Пецярбургскі Камітэт па справах друку пры Міністэрстве ўнутраных спраў накіраваў таксама адносіну Часоваму камітэту па справах друку ў Вільні за № 2591, якой уведамляў Часовы камітэт, «что за напечатание нижеследующих изданий на белорусском языке возбуждены судебные преследования с наложением арестов: 1. "Жалейка" Янки Купалы по пп. 1 и 3 ст. 129 Уголовного Уложения, изд. 1903 г.; 2. "Смык беларускі" Сымона Рэўкі — по п. 6, ст. 129 того же Уложения; 3. "Дудка беларуская" Мацея Бурачка — по п. 6 ст. 129 Уголовного Уложения, изд. 1903 г. и ст. 6 отд. VIII Закона 24 ноября 1905». Далей паведамлялася, што творы Ф. Багушэвіча накіраваны пракурору Санкт-Пецярбургскай судовай палаты, а «экземпляр брошюры "Жалейка" Янкі Купалы при сём возвращается». (С.114-115. Арыгінал захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве Літвы. Ф.1240, воп. 1, адз. зах. 53, л. 47).

Але ў хуткім часе, як успамінаў сам Я. Купала, «праз пратэкцыю канфіскату знялі». Ужо 10 лістапада 1908 г. Санкт-Пецярбургская судовая палата адмяніла арышт і кніга паступіла ў адкрыты продаж. Праўда, 11 лістапада Віленскі часовы камітэт у адносіне № 422 за подпісам А. Камерлінга паведамляў віленскаму павятоваму іспраўніку пра забароненыя выданні, у тым ліку Купалавай «Жалейкі», а значыць, учыніў надзор за распаўсюдам кніг. Канчаткова справа «Жалейкі» была закрыта 25 лістапада 1908 г. 11 снежня 1908 г. газета «Минское эхо» паведамляла: «Дазволеную цяпер да свабоднага абарачэння кнігу таленавітага паэта — знатака і песняра беларускай сялянскай "долі", — можна атрымаць ва ўсіх кнігарнях горада».

**Ганна ЗАПАРТЫКА**

# БОЙКАЕ МЕСЦА,

## або Як задаволіць мультыпатрэбы сучаснага чытача?

Мальберт у бібліятэцы? І фартэпіяна? Нічога дзіўнага. Адна з найстарэйшых кніжніц Мінска бібліятэка-філіял № 1 імя Л. М. Талстога (летась адзначыла 105 гадоў) славіцца сваёй утульнасцю і стараецца ўлічыць інтарэсы розных наведвальнікаў.

За 2016 год кніжніца зладзіла 75 культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў, якія наведала 3066 чалавек. У бібліятэцы разумеюць: прэзентатыўны фонд (59 тыс. экз. кніг, 3000 часопісаў, 118 газет, 133 кампакт-дыскаў, 300 альбомаў па мастацтве) — гэта добра, але галоўная арыентаванасць бібліятэкі сёння — чалавек, актывізацыя грамадскай прасторы.

— З 2014 года ў нас дзейнічае праект «Зробім свет прыгажэй разам», — адзначае загадчыца бібліятэкі-філіяла № 1 імя Талстога г. Мінска Тацццяна Маткоўская. — У нас выстаўляюцца і народныя мастакі Беларусі, ганарымся гэтым. Сцены ў кніжніцы высокія, людзей многа — месца бойкае: столькі ВНУ вакол.

Веды і адукацыя — па-ранейшаму асноўныя задачы для бібліятэк, але цяпер яны па-іншаму ажыццяўляюцца. Бібліятэкі імкнуцца выходзіць за традыцыйныя формы дзейнасці і распрацоўваюць новыя метады, накіраваныя не толькі на распаўсюджванне ведаў, але і на крэатыўнае развіццё і самарэалізацыю.

— Мы супрацоўнічаем з мінскім каледжам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, з універсітэтам культуры, — працягвае Тацццяна Маткоўская. — Разумееце, дзе карціны, там і кнігі, там і літаратура. Гэта прываблівала заўсёды. У межах праекта спачатку адзін раз на год, а зараз двойчы робім дэкаратыўна-прыкладную выстаўку вышыўкі (вельмі папулярная сярод пажылых чытачоў 50+). Шукаем народныя таленты па ўсёй краіне. З апошніх нашых экспанаванняў — выстаўка адмысловых дываноў Тамары Грыгаровіч і яе маці з Гомельскай вобласці. Уявіце: дываны памерам 3 на 4 м (добра, што ў нас сцены дазваляюць) не тканыя, а вышываныя. Людзі прыходзілі натоўпам. Цяпер дываны паедуць у Гомельскі краязнаўчы музей.

Загадчыца бібліятэкі прызнаецца, што клопату па арганізацыі выставак шмат, але ёсць аддача — чытачам падабаецца. Цешаць каментары ў інтэрнэце, прыкладам: «Уражвае бібліятэка Талстога: тут пастаянна новыя выстаўкі, утульна».

Ладзілася ў кніжніцы цікавая вечарына мастака Уладзіміра Чарнышова. Больш за 20 гадоў ён быў галоўным мастаком тэатра імя М. Горкага. Шмат працаваў у беларускім кіно. На імпрэзу ў бібліятэку завіталі шматлікія калегі творцы, музыкі, сярод якіх слынныя дзеячы мастацтва Ігар Лучанок, Эдуард Ханок.

Прастора бібліятэкі становіцца больш адкрытай. З'яўляюцца зоны для правядзення мерапрыемстваў. Сёння разважаюць, як напоўніць жыццём прастору паміж кніжнымі стэлажамі. Навідавоку шматфункцыянальнасць. Летась у бібліятэцы Талстога арганізавана 4 дэкаратыўна-прыкладныя выстаўкі, 2 фотавыстаўкі, 2 выстаўкі вышыўкі, 7 мастацкіх выставак. З апошніх — экспазіцыя работ майстэрні мастака Уладзіміра Сайко.

Уладзімір Сайко мастак малады, але амбіцыйны: ужо мае сваю студыю-майстэрню і навучэнцаў. Скончыў гімназію-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка, вучыўся ў маскоўскім мастацкім інстытуце імя В. І. Сурыкава, зараз заканчвае Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў. Першы досвед педагогікі Уладзіміра — у Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі Першамайскага раёна Мінска: пачаў выкладаць, калі быў студэнтам 2 курса Акадэміі мастацтваў. Папрацаваў у цэнтры 2 гады, з'явілся першыя вучні. Прыйшоў да высновы, што патрэбна свая майстэрня.



*Мастак Уладзімір Сайко са сваімі выхаванцамі.*

— Работы выхаванцаў маёй студыі былі прадстаўлены ў праграме каляндных вечароў, якія штогод ладзіць Літаратурны музей М. Багдановіча, — распавядае Уладзімір Сайко. — Увогуле выстаўкі нашай студыі робім ледзь не штомесяц. З апошніх — экспазіцыя ў Прэзідэнцкай бібліятэцы, дзе было прадстаўлена каля 50 карцін. Выстаўку пабачыла больш як 10 тыс. гледачоў. Лічу, якія-небудзь выстаўкі павінны быць у бібліятэцы. Гэта вельмі добра як для бібліятэкі, так і для мастака. Камунікацыя. Чытач таксама і глядач, жадае візуальнага асветніцтва.

Сучаснасць дэманструе магчымасці эфектыўнага спалучэння ў бібліятэчнай дзейнасці як сацыякультурнай, так і інфармацыйнай актыўнасці. Такі падыход надае бібліятэцы імідж прывабнага месца для інтэлектуальнага баўлення часу, як калісьці. Ёсць цікавыя звесткі пра бібліятэку Талстога ў кнізе Аляксандры Ложачка «Рыгор Камінскі» (Рыгор Камінскі, вядомы партыйны дзеяч, быў знаным наведвальнікам кніжніцы з 1934 года). «…Звычайна вечары Рыгор бавіў у чытальні Талстога, куды збіралася моладзь, што жыла ў раёне Брэсцкага вакзала. Юнакі і дзяўчаты зусім неаднолькавых жыццёвых поглядаў зачытваліся раманамі М. П. Арцыбашава, А. А. Вярбіцкай, дэкламавалі вершы Севяраніна і бедавалі пра страчаны сэнс жыцця. Другія цікавіліся навуковымі праблемамі, трэція шукалі такія жыццёвыя шляхі, каб прынесці карысць народу і грамадству. А дзявятай вечара, калі ў чытальні гаснулі агні пад зялёнымі абажурамі, натоўп моладзі вырываўся на вуліцу…» Чытальная настальгія…

Вядома, што бібліятэка адкрылася ў 1911 годзе, праз год пасля смерці Л. М. Талстога. Увекавечыць памяць класіка прапанавала грамадскасць Мінска на чале з доктарам Ф. Ульянавым. Ёсць сведчанні, што з нагоды адкрыцця бібліятэкі адбыўся губернатарскі баль. Пад бібліятэку былі адведзены тры пакоі на другім паверсе прыватнага дома па вул. Мяснікова, тады Нова-Маскоўскай. Гэта была чытальня. Кнігі на дом не выдавалі. Чыталі на месцы. Уваход каштаваў 1 капейку.

На адкрыццё бібліятэкі прыязджала з Яснай Паляны жонка Талстога, Соф'я Талстая, падарыла кнігі, аднак, на жаль, яны страчаны ў час вайны. Але ў сённяшнім фондзе ёсць каштоўныя прыжыццёвыя талстоўскія выданні (каля 14 экзэмпляраў), якія на стагоддзе бібліятэкі падарыў сябар кніжніцы, кнігалюб Генадзь Іванавіч Уласаў.

Пасля вайны бібліятэка згарэла, расказваюць сталыя чытачы, і людзі з усяго Мінска прывозілі літаратуру на санках, гэта было на вул. Чкалава, 1-я школа. Сёння ў бібліятэцы Талстога вельмі шмат літаратуры з букіністычнага магазіна: калісьці работнікі куплялі літаратуру на свой густ, а ў «Букіністе» былі надзвычайныя выданні. Таму ў бібліятэцы Талстога хваляцца, што ў іх ёсць такія асобнікі, якіх няма нават у Нацыянальцы, асабліва па мастацтве. А ўвогуле мастацкай літаратуры ў бібліятэцы Талстога 27 тысяч, 15 тысяч — на беларускай мове (13,5 тысячы чытачоў, дзяцей 400, наведала за 2016 год 60 тыс. чалавек.). Ды сучасная сацыяльная рэальнасць дэманструе актуальнасць не столькі захавання ці распаўсюджвання інфармацыі, колькі кіравання. Проста выдаваць кнігі мала. Наспела патрэба шукаць новыя падыходы ў арганізацыі ўжо традыцыйных відаў дзейнасці, нестандартныя формы абслугоўвання. Бібліятэка становіцца праваднікам культуры, найважнейшай грамадскай прасторай, гуманітарным цэнтрам і з месца, дзе можна ўзяць кнігу, ператвараецца ў гарадскую культурную гасцінную.

Апошнім часам набірае моц «трэцяе месца» — там, дзе хацелася б сустрэцца, папрацаваць, адпачыць (не толькі дома, на працы). Акрамя музеяў, кафэ, паркаў, каворкінгаў, прэтэндэнт на «трэцяе месца» — бібліятэка.

Спецыялісты раяць пашырыць традыцыйны спектр паслуг бібліятэк. Сёння вядомы шматфункцыянальныя комплексы, якія спалучаюць, напрыклад, функцыі газэтаў, гатэля і бізнес-цэнтра. Сутнасць мадэрнізацыі ў тым, каб, зберагаючы традыцыйны змест бібліятэкі, абнаўляць яе форму. Для прыцягнення чытачоў і эфектыўнай дзейнасці кніжніцы прарочаць стаць камфортным і зручным месцам для зносінаў, запатрабаванай пляцоўкай для самарэалізацыі.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Спяём?

**У бібліятэцы Дзяржынска не змаўкалі спевы. Насычаная выдалася творчая вечарына «Палёт натхнення» кампазітара, спявачкі Тамары Кашчэва.**

Амаль 33 гады яна адпрацавала музычным кіраўніком у Фаніпальскім дзіцячым садзе. Тут, пры Доме культуры, з яе дапамогай быў створаны ансамбль «Медуніца». У 2012 годзе Тамары Кашчэва было прысвоена званне «Жанчына года Дзяржыншчыны», а летась яе ўзнагародзілі пачэсным званнем «Ганаровы грамадзянін горада Фаніпаля».

Песні пачала пісаць з 1990 года. У 2002-м свет пабачыў першы кампакт-дыск Тамары Кашчэва «Не шкадуйце сэрца», а пры падтрымцы Мінскага абласнога народнага клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў «Жывіца», сябрам якога яна з'яўляецца, выйшлі зборнікі песень «Вясёлыя кропелькі», «Люстэрка душы», а таксама кампакт-дыскі «Ляці і вяртайся», «Шчыраванне». У 2008 годзе кампазітар выдала свой першы зборнік песень «Не шкадуйце сэрца».

Цікавасць да музыкі і беларускіх песень праявіліся ў творцы з малых гадоў. Магчыма, спрыяла адметная прырода Нарачанскага краю — малой радзімы творцы. Пасля заканчэння Маладзечанскага музычнага вучылішча яе накіравалі на працу ў мядзельскую музычную школу, дзе яна стала актыўнай удзельніцай ВІА «Раніца».

На вечарыне творцу горача віталі сябры клуба паэзіі і аўтарскай песні «Натхненне» Вольга Сакалова, Людміла Бурдыка і Наталля Сантаровіч, паэтэса Вера Буланда прачытала верш, прысвечаны Тамары Кашчэва. Вершы і шчырыя словы Тамара Іванаўна пачула і ад сяброў Дзяржынскага літаратурнага аб'яднання «Узвышша».

Праспявала Тамара Кашчэва песні на словы прысутных на вечарыне паэтэс, членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі Рэгіны Рэўтовіч і Людмілы Круглік, падарыла сваю песню «Давайце спяём».

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

# ЮБІЛЕЙ ЯК НАГОДА ДЛЯ ІМПРЭЗЫ

Жыццёвы юбілей адсвяткавала журналістка, беларуская пісьменніца, рэдактар газеты «Астравецкая праўда» Ніна Рыбік. Нарадзілася і вырасла жанчына на Хойніцкай зямлі, вось ужо тры дзесяткі гадоў яна жыве і працуе ў Астраўцы. Тут яна выгадавала сваіх дзяцей, тут яна стала вядомай беларускай пісьменніцай.

Бібліятэкі раёна прысвяцілі ёй разнастайныя імпрэзы. Выстаўкі-прагляды творчасці, выстаўкі-партрэты, літаратурныя гадзіны і нават дні юбіляра прайшлі ў Трокеніцкай сельскай бібліятэцы-клубе, Астравецкай дзіцячай бібліятэцы, Гервяцкай сельскай бібліятэцы-цэнтры нацыянальных культур, Кямелішкаўскай, Рымдзюнскай, Рытаньскай і Варонскай сельскіх бібліятэк.

У апошняй і Астравецкай раённай бібліятэках імпрэзы прайшлі з удзелам самой пісьменніцы. Госця мела магчымасць адказаць на пытанні, параважаць аб сучасным стане літаратуры і культуры, расказаць пра свае планы і мары.

**Вольга ТВАРАГАЛЬ,**
**загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу**
**Астравецкай раённай бібліятэкі**

# МАГЧЫМАСЦЬ БЫЦЬ АЦЭНЕНЫМ

**Больш за 600 аўтараў скарысталіся магчымасцю заявіць пра сябе ў праекце «Я Манэ, Я Шышкін, Я Малевіч».**

Мастацкая галерэя «Дом карцін» была адкрыта прыкладна год таму. За гэты час на выставачнай пляцоўцы адбылося нямала арыгінальных, канцэптуальных праектаў, якія выклікалі цікавасць у аматараў мастацтва. Апошні праект «Я Манэ, Я Шышкін, Я Малевіч», які быў адкрыты на пачатку лютага, стаў эксперыментальным і правакацыйным, выклікаў мноства спрэчак сярод аўтараў, мастацтвазнаўцаў, крытыкаў. Сутнасць выстаўкі — паказаць, што ў Беларусі значна больш таленавітых мастакоў, чым мы можам ведаць, і яны таксама гатовыя развіваць айчыннае мастацтва.

Ідэя арганізаваць падобнага роду выстаўку належыць куратару Вользе Кліп, якая знайшла інфармацыю пра падобны праект, арганізаваны ў 1978 годзе амерыканцам Уолтэрам Хобсам у Вашынгтоне. «Дом карцін» цалкам прыняў правілы «гульні»: узяць удзел у выстаўцы запрасілі ўсіх мастакоў, якія жадаюць падзяліцца творчымі дасягненнямі. Супрацоўнікі галерэі прымалі па адной рабоце ў любой тэхніцы, жанры, стылі. Умова была толькі адна і заключалася ў тым, каб твор можна было пранесці праз уваходныя дзверы.

— Ідэю ўвасобіць у жыццё такі праект я абдумвала на працягу года. Калі заснавальнік «Дома карцін» выказаў меркаванне, што было б вельмі цікава сабраць работы аўтараў з усёй краіны, я адчула, што ўсё атрымаецца, распавядае куратар праекта Вольга Кліп. — Нашы задумы супалі, мы ўдваіх былі перакананыя: у такім праекце могуць быць аб'яднаны розныя мэты і задачы. Арганізоўваючы выстаўку «Я Манэ, Я Шышкін, Я Малевіч», мы цалкам вызваліліся ад крытэрыяў судзейства — куратарскага і журы. Такім чынам далі магчымасць узяць удзел у праекце мастакам, якіх не запрашаюць выстаўляцца на іншых выставачных пляцоўках, работы якіх не прымаюць у музеях, галерэях па незразумелых прычынах. Аналізуючы выставачныя праекты, якія праходзяць у Мінску апошнія гады, магу з упэўненасцю заявіць, што мы круцімся вакол імёнаў адных і тых жа аўтараў, вакол адных і тых жа работ. Гэта дзіўна і нават сумна. Наша выстаўка абсалютна няжанравая і нетэматычная. Мы чакалі ўбачыць вялікую разнастайнасць мастацкіх тэхнік, сюжэтаў і нават бессюжэтнасці. У нас гэта атрымалася. Аднак праект цікавы непрадказальнасцю, ён выклікаў вялікую даследчую цікавасць у мастацтвазнаўцаў. Гэтай выстаўкай мы дэманструем дынаміку актыўнасці сярод мастакоў, і, магчыма, дзякуючы праекту ў нас атрымаецца адкрыць новыя імёны.



*Частка экспазіцыі «Я Манэ, Я Шышкін, Я Малевіч».*

Такога ў краіне не бачылі даўно: перад галерэяй сабралася вялікая чарга мастакоў яшчэ за гадзіну да пачатку прыёмкі твораў. Сярод жадаючых выставіцца можна было ўбачыць як прафесіянальных, вядомых у мастацкай прасторы творцаў, так і зусім маладых людзей, былі нават маленькія дзеці. У выніку для экспазіцыі «Дом карцін» прыняў творы 661 аўтара. Пераважна прыносілі жывапісныя работы, выкананыя ў розных мастацкіх тэхніках. Ёсць вітраж, а таксама карціна, намаляваная незвычайнымі фосфарнымі фарбамі. Скульптуры і прадметнай мастацкай інсталяцыі практычна няма. Аднак у будучыні «Дом карцін» будзе спрабаваць паказаць і больш актуальныя формы мастацтва. Што тычыцца якасці твораў, то Вольга Кліп адзначае, што «Я Манэ, Я Шышкін, Я Малевіч» — выстаўка, дзе кожны знойдзе для сябе захапляльны сюжэт. Тут ёсць як дастаткова прымітыўныя сюжэты, так і творы з адсылкай да Сальвадора Далі, Казіміра Малевіча, Пабла Пікаса… Ёсць работа, прысвечаная Алене Кіш.

Вялікая цікавасць да праекта сведчыць: мастакам сапраўды не хапае ўвагі. Хоць адкрываецца мноства новых выставачных пляцовак, усё роўна застаюцца аўтары, якія не могуць «прабіць» магчымасць быць выстаўленымі. Асабліва гэта тычыцца творцаў, якія не ўваходзяць у Беларускі саюз мастакоў і Беларускі саюз дызайнераў. Вядома, мастаку шанцуе, калі ў яго ёсць асабістыя знаёмствы, а калі не — што рабіць? Некаторыя сябры творчых саюзаў таксама скардзяцца на рэдкія праекты, дзе б можна было сябе праявіць, асабліва гэта тычыцца моладзі, якой неабходна мець магчымасць сябе паказаць.

Праект аказаўся вельмі папулярным, але ёсць і тыя, каму не даспадобы аб'яднанне твораў рознага мастацкага ўзроўню ў адных сценах. Мастакі разгарнулі дыскусіі ў сацыяльных сетках, дзе гучаць думкі, што «Дом карцін» пайшоў лёгкім шляхам: наведвальнасць выстаўкі будзе вялікая толькі за кошт таго, што кожны аўтар прыйдзе паглядзець сваю работу ў выставачным інтэр'еры. Аднак Вольга Кліп з такімі заявамі не згодная:

— Цікава выслухаць розныя меркаванні, зразумець, чым людзі аргументуюць свае заўвагі. На адкрыццё прыйшло многа прафесійных мастакоў, мастацтвазнаўцаў, аматараў мастацтва: госці былі ў захапленні. Дарэчы, я перакананая: наш інстытут кураторства мастацтвазнаўства дасюль слабы для таго, каб выносіць вердыкты, здзяйсняць судзейства… Я чакала, што ў праекце возьмуць удзел у асноўным самадзейныя мастакі. Менавіта на гэта і зроблены акцэнт, каб кожны ахвотны аўтар, незалежна ад прызнання, узроўню адукацыі, мог узяць удзел у экспазіцыі. Аднак і прафесіяналы не засталіся ўбаку. Многія адстаялі велізарную чаргу, і сёння іх працы прадстаўлены ў «Доме карцін». Сярод такіх аўтараў — Зоя Луцэвіч, Вольга Угрыновіч, Кацярына Сумарава, Георгій Капуснікаў ды іншыя. На выстаўцы можна знайсці цудоўныя работы малавядомых аўтараў, якія выкананы бездакорна тэхнічна, у якіх прасочваецца канцэптуальны пасыл.

Па падліках супрацоўнікаў галерэі, кожны дзень паглядзець экспазіцыю прыходзяць больш як пяцьсот чалавек. Бывае так, што каля аднаго твора нават чарга збіраецца, людзі распачынаюць дыялог — актыўна абмяркоўваць работы. Кожнаму наведвальніку на ўваходзе даюць паперку, куды ён можа ўпісаць імя аўтара, работа якога найбольш спадабалася. Калі выстаўка скончыцца, будуць падведзены вынікі: пераможца, які атрымае больш галасоў наведвальнікаў, зможа адкрыць у мастацкай галерэі «Дом карцін» персанальную выстаўку.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

# Сталкеры па чалавечым свеце

**Арт-праект «Чалавек і чалавек», што прадстаўлены ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў, схіляе падумаць пра сутнасць існавання і каштоўнасці жыцця.**

Праект аб'яднаў трынаццаць беларускіх мастакоў і скульптараў. Сярод іх — Сяргей Грыневіч, Марта Шматава, Аляксандр Шапо, Таццяна Кандраценка, Павел Вайніцкі, Дзяніс Барсукоў, Павел Кандрусевіч ды іншыя. Пад творы кожнага аўтара адведзены асобны пакой. Аўтары разважаюць над сутнасцю чалавека, над тым, як ён ставіцца да асяроддзя і, галоўнае, да самаго сябе. Пераходзячы з залы ў залу, разумееш, што выстаўка нечаканаператвараецца ў дыялог: паміж самімі ўдзельнікамі, паміж мастакамі і іх творамі, паміж аўтарамі і гледачамі.

— Мая тэма ў праекце — дыялог са сваім «іншым я», — адзначае мастачка Марта Шматава. — Чалавек для мяне — сталкер у сваёй суб'ектыўнай рэальнасці, які заўсёды хоча спасцігнуць сэнс жыцця, імкнецца да гармоніі з сабой і светам, раздумвае пра ідэальнае, расчароўваецца і знаходзіць, падае і ўстае, каб шукаць зноў, знаходзіцца ў стане бясконцага ўнутранага дыялогу, асабістых пошукаў. Чалавек — асноўная частка светапабудовы. Тэмы самапазнання і самафарміравання, тэмы падзенняў — усе яны звязаныя з чалавекам. Тэма чалавека праходзіць праз усю сусветную культуру. Аднак цяпер развіццё цывілізацыі адбываецца з неверагоднай хуткасцю, а чалавек часам становіцца функцыяй альбо абстрактнай фігурай, нябачнай часткай працэсаў і сістэм.



*Марта Шматава «Аднойчы», 2014 г.*

Творчыя работы мастакоў спараджаюць мноства пытанняў, на якія адказваеш пасля прагляду экспазіцыі. Адно з іх звязана з любоўю. Каго альбо што чалавек здольны любіць больш за ўсё: сябе, блізкіх альбо Бога? Скульптуры Аляксандра Шапо дэманструюць некалькі тыпаў кахання, паказваюць, як яно з часам можа змяняцца:

— У маёй падборцы работ гаворка ідзе пра ўнутраны свет чалавека і пра асобасныя ўзаемаадносіны. Так, работа «Святы Себасцьян» прысвечана хрысціянскаму пакутніку, які прыняў смерць з-за любові да Бога. Унутраная сіла робіць гэтага чалавека пераможцам над сваімі катавальнікамі, над уласнай слабасцю, над абставінамі жыцця. «Восем з паловай» — праца вельмі асабістая — пра каханне чалавека да жыцця, якая становіцца ўнутраным рэсурсам, крыніцай сілы і натхнення ў любых сітуацыях. «Мінатаўр» і «Казанова» — роздум пра ўзаемаадносіны мужчыны і жанчыны, дзе дыяпазон асабістай уцягнутасці вар'іруецца ад лёгкага флірту да фатальнай страсці. Кожная з гэтых чатырох работ паўстала на падставе асабістага досведу, бо любоў ці то да Бога, ці то да жыцця або да канкрэтнага чалавека напаўняе жыццё сэнсам, робіць чалавека чалавекам.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Андрэй Дубінін «Апошняя вячэра», 2016 г.*

# На сваёй хуткасці

**Пра Беларускі саюз кінематаграфістаў зараз чуюць няшмат, у той час як яго сябры з’яўляюцца сапраўднымі байцамі нябачнага фронту, дапамагаючы не толькі заўважаць таленавітую кінамоладзь, але і ўшаноўваць заслужаных дзеячаў кінагаліны. Пра тое, што сёння адбываецца са структурай, як атрымліваецца аб’ядноўваць такіх розных людзей і падтрымліваць «новую кроў» індустрыі, распавядае старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктар Васільеў.**



## Даведка «ЛіМа»:

Віктар Васільеў пачаў свой шлях да творчасці ў Свярдлоўску (з 1976 года працаваў на студыі тэлебачання). Пасля скончыў Свярдлоўскі дзяржаўны інстытут тэатра і кіно, у 1987 годзе пачаў працаваць акцёрам ва Уральскім тэатры драмы. Пераехаў у Мінск у 1989-м, працаваў у Тэатры драмы і камедыі, потым у Альтэрнатыўным тэатры, на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» (акцёр тэатра і кіно). У 2013 годзе стаў выкладчыкам на кафедры рэжысуры кіно ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Артыст Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Здымаўся ў карцінах «Бальная сукенка», «Глыбокая плынь», «Ворагі», «Маёр Ветраў», «Вока за вока» і іншых.

У 2008 годзе абраны старшынёй Беларускага саюза кінематаграфістаў, з’яўляецца членам экспертнага савета па кінематаграфіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, член праўлення гільдыі акцёраў кіно. Удзельнік міжнародных кінафестываляў.

## Прыярытэты

Некалькі дзясяткаў гадоў таму кінематограф быў сапраўды найважнейшым мастацтвам. Не толькі па словах Леніна, але і па ўздзеянні фільмаў на эмоцыі, пачуцці і свядомасць гледача. Саюз кінематаграфістаў у тыя часы меў вялікі ўплыў на індустрыю (дарэчы, менавіта гэтае аб’яднанне заснавала мінскі кінафестываль «Лістапад»). Зараз праца саюза, магчыма, і не заўважная кожнаму воку, але менш важнай ад гэтага яна не становіцца: аб’яднанне (а разам з ім і 428 яго сяброў) адсвяткуе свой 55-ы дзень нараджэння.

На жаль, Саюз кінематаграфістаў — не самая багатая прафесійная арганізацыя. Тыя ж саюзы мастакоў і дызайнераў будуць тут на больш высокім месцы. Але Віктар Васільеў праблемы ў гэтым не бачыць — толькі розныя падыходы і задачы: «Параўноўваць нас з тымі ж мастакамі ці дызайнерамі нельга. Мэта, канечне, у нас адна — культурная спадчына. Але калі мастак намаляваў нешта, то сябру Саюза кінематаграфістаў абавязкова патрэбен калектыў — паасобку мы нічога зрабіць не можам. Гэта вялізнае адрозненне: у нас цэлы калектывы, і калі нешта ў кінематографе адбываецца, то ўдзельнічаюць у гэтым усе. Менавіта для таго, каб падтрымліваць такіх адзінак, наш саюз і створаны».

Нягледзячы на сваю таямнічасць, да сяброў саюза часта звяртаюцца за дапамогай. І ў ёй тут ніколі не адмаўляюць. Усё ж папулярызацыя айчыннага кінематографа — справа важная і агульная, таму Саюз кінематаграфістаў ні адной магчымасці не губляе: «Мы нават самі спрабуем праводзіць конкурсы фільмаў і супрацоўнічаем з іншымі ўстановамі. З самага апошняга — праца з інстытутам Сахарава: паказвалі кіно на экалагічную тэматыку».

Спіс мерапрыемстваў, зладжаных саюзам, можна працягваць амаль бясконца. Толькі ў 2016 годзе яго сябры ўзялі ўдзел у шэрагу фестываляў у Беларусі, Расіі і Турцыі, дапамаглі правесці дні культуры Беларусі ў Расіі, пасадзейнічалі адкрыццю мемарыяльнай дошкі Віктара Турава ў Мінску. І гэта не кажучы пра тое, колькі конкурсаў фільмаў і праектаў было праведзена і колькі беларускіх стужак было адпраўлена на замежныя кінафестывалі. Не забываецца саюз і на дапамогу маладым кінематаграфістам, адзначае Віктар Васільеў: «Мы кіруемся на маладых, таму гатовыя адстойваць і іх працы перад тым жа Міністэрствам культуры. Таму, калі хтосьці хоча сябе праявіць, я прапаноўваю дапамагаць моладзі — не вучыць, а накіроўваць, нешта раіць».

У саюзе кажуць, што часам самі рэжысёры прыносяць новыя стужкі для прагляду. І тут іх абавязкова заўважаюць: могуць і пакрытыкаваць, і выказаць нейкія парады, і штосьці падказаць. Але праца з сучасным кіно на гэтым не заканчваецца: «Мы дапамагаем у арганізацыі фестывалю кароткаметражнага кіно *“Cinema Perpetuum Mobile”*. Многія і не ведаюць, што мы працуем з гэтым фестывалем, гэта як у кіно: усе бачаць акцёраў, але не ведаюць аператараў, грымёраў. Мы — байцы так званага нябачнага фронту».

## Пачуты голас

Але дапамагаючы іншым, не варта забывацца і пра сяброў саюза — для з’яднання таксама патрэбны час і месца. Апошняе — самая вялікая бяда саюза, але праблему так проста не вырашыш (сёння Саюз кінематаграфістаў знаходзіцца на кінастудыі «Беларусьфільм»), дадае Віктар Васільеў: «Мы традыцыйна збіраліся разам, адглядалі беларускія фільмы. Пасля праводзілі дыскусію, выказваліся. Вельмі хацелася б гэтую традыцыю ў хуткім часе ўзнавіць. Бо выяўленне найвышэйшай павагі да кінематаграфіста — гэта калі калегі адзначаюць яго віртуозна зробленую работу. Менавіта ў такім калектыве можна “выпесціць” зярнятка добрага кіно».

Надзеі на новае памяшканне саюз не губляе, бо гэта стала б сур’ёзнай зменай для працы. Віктар Васільеў адзначае, што «наша праца стала б больш заўважнай, каб мы мелі ўласнае месца. Хочацца разам сабрацца, мець нейкую лакалізацыйную пляцоўку, дзе можна было б правесці калектыўную “мазгавую атаку”, вырашыць сумесныя праблемы разам».

У астатнім кінематаграфісты ні на што не скардзяцца: яны могуць ездзіць на фестывалі, іх запрашаюць на сустрэчы і канферэнцыі. А сродкі часам знаходзяцца ў тым ліку ў замежных фондах. Дапамагае і Міністэрства культуры — усё ж там голас саюза чуюць дагэтуль, падкрэслівае Віктар Васільеў: «Калі мы звяртаемся ў Міністэрства культуры, кінапракат ці да кіраўніцтва горада, ніхто ніколі не адмаўляе: кінапракат дапамагае з правядзеннем мерапрыемстваў, горад — с пляцоўкамі. З міністэрствам мы часта працуем сумесна: і ў паездках, і ў праектах заўсёды падтрымліваюць, размаўляем наконт сумеснай вытворчасці, удзелу Саюза кінематаграфістаў у Нацыянальным конкурсе кінапраектаў».

Што датычыцца конкурсу кінапраектаў, то сябры Саюза кінематаграфістаў дапамагаюць у выбары праектаў для дзяржфінансавання, адсочваюць, якой будуць новыя беларускія стужкі: «Мы вельмі ўсцешаныя тым, што можам удзельнічаць у такой адказнай справе. У нашай арганізацыі шмат прафесіяналаў, якія лёгка могуць вызначыць, што сёння айчыннай кінаіндустрыі патрэбнае, а ад чаго можна адмовіцца».

## Застаюцца моцныя

За больш чым паўстагоддзя існавання аб’яднанне зрабіла шмат карыснага для супрацоўнікаў сферы кіно. Працягваць традыцыі, якія былі закладзены яшчэ ў далёкія 60-я, неабходна і зараз: «Кінематаграфісты — людзі са звычайнымі праблемамі. Яны прыходзяць да нас як у прафсаюз, звяртаюцца па дапамогу. Мы вылучаем матэрыяльную дапамогу, таксама падтрымліваем маладых рэжысёраў у пытанні здымак, шукаем пляцоўкі. Але сапраўднае наша дасягненне ў тым, што мы знаходзім працаўладкаванне для сяброў саюза, якія яшчэ яго не маюць. Многія акцёры з нашай дапамогай трапляюць у серыялы — зараз, напрыклад, здымаюцца ў серыяле “Вяртанне Мухтара”».

Віктар Васільеў адзначае, што самае складанае ў працы саюза — зрабіць магчымым захаваць памяць пра заслужаных дзеячаў кіно. Гэта падаецца простым, але насамрэч узнагародзіць тых, хто гэтага варты, — даволі цяжкая адміністрацыйная праца: «гэта падаецца не самым заўважным, але мы аддаём даніну павагі людзям, якіх ужо пачынаюць забываць. Праводзім вечары памяці — не так даўно правялі мерапрыемствы, прысвечаныя Карпаву-старэйшаму і Тураву. І гэта патрабуе вялізных намаганняў, хоць так і не выглядае. Канечне, мы ўзгадваем тых геніяльных рэжысёраў, якія зрабілі неверагодна каштоўны ўнёсак у гісторыю беларускага кіно».

У Саюза кінематаграфістаў ёсць свой медаль памяці Юрыя Тарыча. Ім узнагароджаныя многія вядомыя дзеячы кіно. Напрыклад, Уладзімір Спарышкоў, які быў першым аператарам першага тэлеканала «Масква». Нягледзячы на тое, што саюз спрабуе папулярызаваць беларускае кіно, узгадаць людзей, якія з’яўляюцца гонарам нацыі, многія сёння аб’яднанне пакідаюць. Але нічога асаблівага тут няма, лічыць Віктар Васільеў: «Я не звяртаю ўвагі на тое, што людзі сыходзяць з саюза — гэта нармальны працэс. Верагодна, спадзяванні гэтых людзей не супадалі з рэальнасцю ці яны ў чымсьці расчараваліся. Каб адчуваць сябе ў складзе саюза вольна і ўтульна, трэба ўдзельнічаць у яго працы, а на гэта таксама не кожны здольны. Мы спрабуем з’яднаць аднадумцаў, таму, канечне, саюз запатрабаваны. Пра адно трэба папярэдзіць: не шукаць тут дапамогі, а імкнуцца дапамагаць іншым».

## Індустрыя змоўшчыкаў

Магчыма, сыход людзей з аб’яднання можа быць звязаным і з сітуацыяй на нацыянальнай кінастудыі. Для многіх яна працягвае заставацца незразумелай, падкрэслівае Віктар Васільеў: «Сёння не разумею, што адбываецца з нашай кінастудыяй — пра яе кажуць шмат дрэннага. Але тут трэба ведаць, што такое грошы і што такое кінематограф. Я лічу, што мы павінны пачакаць, калі “Беларусьфільм” адбудуецца, народзіцца. Аднавіць гэтую пляцоўку — справа не аднаго дня, не аднаго года, хоць яе плануецца здаць ужо ў наступным годзе».

З самага пачатку існавання Беларускі саюз кінематаграфістаў з цеплынёй і павагай ставіўся да нацыянальнага кіно: менавіта ён гэтае кіно і ствараў. Узгадваючы тыя часы, Віктар Васільеў адзначае, што «заўсёды было савецкае беларускае кіно, і вельмі складана ішоў працэс яго аддзялення ў незалежнае. Сама дзяржава фарміруецца дагэтуль, але фарміраванне нацыянальнага кінематографа — рэч яшчэ больш складаная. Трэба шмат пакаленняў, якія б сталі менавіта тымі “парасткамі” кіно. Шмат хто спрачаецца, якім павінна быць наша кіно. Напэўна, і няпростым, і добрым, пакутлівым. Гледачу патрэбны ва ўсе часы і цяпер адныя і тыя ж героі — мы самі. У Беларусі любоў да гэтага героя захавалася».

Нягледзячы на тое, што беларускае кіно сёння здае пазіцыі, кінематографія Беларусі працягвае працу па захаванні нацыі, проста яны робяць гэта на сваіх хуткасцях.

Калісьці сам старшыня Саюза кінематаграфістаў ездзіў па краіне, па замежжы з беларускімі фільмамі. І ён бачыў эмоцыі гледача. Васільева не пакідае думка пра тое, што не трэба пісаць сцэнарыі і здымаць фільмы для кагосьці асабіста, для нейкай катэгорыі гледачоў. Кінематаграфісты павінны не думаць пра ўзрост ці іншыя крытэрыі, а жыць праблемамі свайго гледача, здымаць тое кіно, дзе ёсць нейкая гармонія.

Ружовыя замкі будаваць можна колькі заўгодна, але праблемы ў айчыннай кінагаліне ёсць. Віктар Васільеў кажа, што іх можа лёгка вырашыць новае пакаленне: «Нам трэба “уліваць” маладыя сілы ў індустрыю, даваць ім працу. Мы пачынаем губляць і іншыя кадры — грымёраў, касцюмераў… Гэта ўсё тое, што можна вырашыць: забяспечыць неабходнымі кадрамі індустрыю, бо асобы кіно — гэта змоўшчыкі. Яны вырашылі рабіць нешта, і робяць гэта разам».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# ЗАКОНЫ СУВЯЗЯЎ

## Творцы і асяроддзе паводле аўтара «Нарысаў па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра»

**Асоба Пятра Сямёнавіча Когана, выхадца з Беларусі, аднаго з вядучых гісторыкаў літаратуры мінулага стагоддзя, перакладчыка, вучонага, эстэта, вядомая больш за мяжой, чым на радзіме. Тым не менш яго можна лічыць першым беларускім гісторыкам заходнееўрапейскага тэатра.**

Ён нарадзіўся 1 чэрвеня 1872 года ў горадзе Лідзе (тады Віленскай губерні), у сям'і лекара, калежскага саветніка. Скончыўшы класічную гімназію ў Магілёве ў 1890 годзе, становіцца студэнтам гісторыка-філалагічнага факультэта Маскоўскага ўніверсітэта, які скончыў бліскуча.

У 1907 годзе выходзіць з друку першы том двухтомніка «Нарысы па гісторыі старажытных літаратур» — «Грэчаская літаратура». Яго артыкулы ў Новым энцыклапедычным слоўніку Бракгаўза і Эфрона, таленавітыя пераклады, прадмовы да многіх выданняў французскай і нямецкай серыі «Сусветнай бібліятэкі» сведчылі пра энцыклапедычную адукаванасць, глыбокія веды і высокую культуру аўтара. У перыяд з 1903 па 1910 гады ён пачынае выдаваць часткамі трохтомнік «Нарысы па гісторыі заходне-еўрапейскіх літаратур». У 1913 годзе зацверджаны прыват-дацэнтам Пецярбургскага ўніверсітэта з правам чытаць лекцыі і адначасова абраны прафесарам Вышэйшых жаночых курсаў імя Лесгафта. Вясной таго ж года Пётр Сямёнавіч камандзіраваны ад універсітэта за мяжу для вывучэння жыцця і творчасці Генрыха Гейне.

З кастрычніка 1917-га П. С. Коган бярэ ўдзел у мерапрыемствах і арганізацыях у сферы культуры. У 1918 годзе ён прызначаецца на пасаду прафесара і члена праўлення Смаленскага ўніверсітэта, з 1921 па 1930 гады займае пасады прафесара 1-га і 2-га МДУ, Усесаюзнага літаратурна-мастацкага інстытута, Даследчага інстытута археалогіі і мастацтвазнаўстваў, старшыні Дзяржаўнага мастацкага камітэта Наркамасветы. З 1921 года становіцца нязменным прэзідэнтам Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук, паводле Марыны Цвятаевай, ён быў "анёлам-ахоўнікам" і «хадайнікам» па зямных справах дзеячаў літаратуры і мастацтва.

Большасць асноватворных навуковых прац П. С. Когана былі апублікаваныя пры жыцці аўтара, якога не стала 5 мая 1932 года ў Маскве. Апошняя вялікая навуковая праца Пятра Когана прысвечана гісторыі тэатра заходніх краін і носіць назву «Нарысы па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра». Неабходна адзначыць, што замежны тэатр зрабіўся прадметам цікавасці даследчыка пад канец жыцця, і таму ён не паспеў надаць гэтай сваёй кнізе патрэбную скончанасць. Нягледзячы на гэта, творчая інтэлігенцыя вырашыла выдаць яе. Яна выйшла ў свет у 1934 годзе ў выдавецтве «*ACADEMIA*» надзвычай абмежаваным накладам у 3300 асобнікаў і, таксама як і «Нарысы па гісторыі заходне-еўрапейскіх літаратур», з'яўляецца сёння вялікай бібліяграфічнай рэдкасцю.

Ва ўступным артыкуле да кнігі «Нарысы па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра» аўтар, у прыватнасці, піша: «Можна сцвярджаць, што ні ў адным мастацтве сувязь паміж мастаком і асяроддзем, якое яго ўспрымае, («публікай», гледачамі) не бывае настолькі відавочнай, як у мастацтве тэатра: тэатр з'яўляецца адзіным відам мастацтва, дзе мастак... непасрэдна сутыкаецца з тым, для каго прызначана яго творчасць... Гэты закон захоўвае сваё дзеянне і для антычнага тэатральнага дзеяння, і для сярэднявечнай містэрыі». Аднак, пачынаючы «Нарысы» раздзелам «Эпоха феадалізму», П. С. Коган пакідае за рамкамі свайго апавядання антычны тэатр — пачатак класічнай еўрапейскай драматургіі.

«Першай сцэнай у Еўропе быў алтар і хоры ў царкве, — піша аўтар пра сярэднявечны тэатр. — Першае тэатральнае відовішча, якое ўбачыў еўрапейскі глядач, было прысвечана адлюстраванню найбольш драматычных эпізодаў Святога Пісання і мела на мэце зрабіць найбольш пераканаўчым і дзейсным сэнс набажэнства... Трэба было ўздзейнічаць на ўяўленне і пачуццё масы, захапіць якую лягчэй за ўсё шляхам навочных мастацкіх вобразаў». І далей нязначны рэфрэн у бок антычнай драмы: «Відовішчы гэтыя з'яўляліся спадчынай і працягам паганскіх відовішчаў Старажытнага Рыма. Акцёр гэтага Рыма, гістрыён, працягваў на працягу сярэдніх вякоў жыць і іграць сярод сельскага і гарадскога насельніцтва ў Еўропе...».

Імёны вялікіх драматургаў антычнасці П. Коган згадвае толькі ў сувязі з імёнамі тых аўтараў, якія ў больш позні час пераймалі класічныя ўзоры старажытнасці. Так, напрыклад, гаворачы пра п'есы юнай манашкі Гандэрсгеймскага манастыра Грасвіты, напісаныя ў X стагоддзі, Коган слушна заўважае: «Яны напісаны ў перайманне рымскаму камедыёграфу Тэрэнцыю. Асноўная тэма іх — апалогія цноты... Яны напісаны ў адкрытым тоне рымскай камедыі... у цэлым, п'есы Грасвіты ўяўлялі сабой цікавы выпадак выкарыстання традыцый рымскай камедыі для новага зместу».

Недастатковая ўвага нададзена ў «Нарысах па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра» і сярэднявечнаму фарсу, гэтаму сатырычнаму кірунку сярэднявечнай літаратуры, пераважна французскай. На жаль, уся інфармацыя пра гэты жанр змяшчаецца літаральна на адной старонцы. Між тым гэты літаратурны і сцэнічны жанр асабліва выявіў сябе на сыходзе Сярэднявечча, калі канчаткова сфарміравалася культура горада і нябывала заквітнелі і памножыліся разнастайныя сатырычныя і камічныя жанры, у тым ліку і тэатральныя.

Даследуючы далейшую эвалюцыю заходнееўрапейскага тэатра, П. С. Коган піша, што ў XIII стагоддзі ствараюцца знакамітыя сцэнкі-дыялогі, у якіх на падмосткі выводзіцца прадстаўнікі тых ці іншых прафесій або саслоўяў, якія шмат зрабілі для падрыхтоўкі камічнага тэатра: у іх адпрацоўваліся прыёмы маўленчай характарыстыкі, узнікалі тыпы-маскі. Усё гэта садзейнічала з'яўленню п'ес дыдактычна-алегарычнага характару, так званых маралітэ, вострасатырычных п'есак — соці і ўласна фарсаў, якія сталі папулярныя і сярод простых гараджан, і сярод венцаносных манархаў. Вядомы факт, што ў 1538 г. кароль Францыск I, заступнік і мецэнат літаратуры, мастацтваў і гуманістычнай вучонасці, загадаў выдаць мэтру Панталэ 225 турскіх ліўраў за тое, што той са сваёй трупай «іграў перад ім шмат розных фарсаў для яго задавальнення і забавы».

Маркуючы пра еўрапейскі тэатр часоў Рэнесансу, Коган прыводзіць цытату Луіджы Танвеля: «Калі антычная думка і антычнае мастацтва не цалкам былі забытыя ў сярэднія вякі, то ў асаблівасці не была страчаная лацінская драматычная традыцыя...». І далей аўтар «Нарысаў» рэзюмуе, што ў эпоху Адраджэння «Італія не дала ніводнага вялікага драматурга. Але яе драматургі напісалі тысячы п'ес, механічна пабудаваных па ўзоры Сенекі, Плаўта і Тэрэнцыя і ў меншай ступені пабудаваных па ўзоры вядомых грэчаскіх драматургаў... Адзначым толькі, што іх (п'ес. — **С. Ш.**) агульная прыкмета... — фармальная залежнасць ад антычных узораў і адсутнасць нагляднай, адчувальнай, жывой сувязі з жыццём».



*Пётр Сямёнавіч Коган.*

У той жа час у «Нарысах» адзначаецца, што найбольш удалым пераймальным жанрам той эпохі з'яўлялася камедыя: «Такія аўтары, як Арыёста, а ў асаблівасці як Арэціна, пераймаў у сваіх камедыях Плаўта і Тэрэнцыя... малявалі сучасныя норавы і спрабавалі даць камедыю нораваў і характараў». У гэтых п'есах «б'е ключом жывое жыццё, ставяцца пякучыя праблемы сучаснасці». Сюжэты сучаснага жыцця, пабудаваныя па класічных узорах, зрабілі італьянскую камедыю папулярнай ва ўсёй Еўропе і паўплывалі на творчасць вядомых драматургаў наступных эпох.

У бліскуча напісанай главе «Прынцыпы класічнага тэатра ў Францыі» Коган дае ў сціслай форме гісторыю яго ўзнікнення. Адным з заснавальнікаў гэтага тэатра ён справядліва лічыць драматурга Аляксандра Ардзі, які ставіў свае п'есы ў замку Гатэль дэ Бургонь, арандаваным у манахаў Братэрства страсцей Хрыстовых. Заслуга Ардо, на думку Когана, заключаецца ў тым, што ён «апрануў» класічную трагедыю ў новую форму свайго часу, «прыцягнуў да тэатра ўвагу свецкага грамадства, якое... ставілася з пагардай да прафесійнага тэатра і аддавала перавагу пышным прыдворным відовішчам».

Тэатр Карнеля стаў «...выразнікам настрояў арыстакратыі эпохі Людовіка XIII і першых гадоў валадарання Людовіка XIV, эпохі гераічных намаганняў, эпохі пераможнага парадку». На змену Карнэлю прыходзіць тэатр Расіна, па сваіх формах і прынцыпах яшчэ прыдворны тэатр, але ў ім «ужо больш прастаты, ён больш рознабаковы і разнастайны за тэатр Карнеля, яго героі больш падобныя да жывых людзей, якія адчуваюць, якія радуюцца і пакутуюць».

Найважнейшым прынцыпам класічнага тэатра з'яўляецца зацвярджэнне трох адзінстваў, запазычаных з «Паэтыкі» Арыстоцеля (адзінства часу, месца і дзеяння), якія «надавалі спектаклю праўдападобнасць, прад'яўлялі менш патрабаванняў да чалавечага ўяўлення...». Гэта карэнным чынам адрознівала тэатр французскага класіцызму ад тэатра англійскага Адраджэння. Па словах класіка англійскай драматургіі, саперніка Шэкспіра — Бэн-Джонсана, «мы нярэдка бачым на сцэне адначасова мноства мораў, дзяржаў і краін. Дзіця нараджаецца ў першай сцэне, і пакуль яго п'еса скончыцца, паспявае вырасці, становіцца рыцарам, здзяйсняе цуды адвагі...».

Тэатр французскага класіцызму аказаў моцны ўплыў на англійскі тэатр, дзе, як і ў Францыі, тэатр стаў любімай забаўкай арыстакратыі. Англійскі кароль Карл II спрабаваў ні ў чым не адставаць ад прыдворнай вытанчанасці і элегантнасці, што панавалі пры двары Людовіка XIV. Пасля Шэкспіра ў англійскім тэатры надыходзіць эпоха класіцызму. У гэты перыяд нават п'есы Шэкспіра перарабляюцца нярэдка на французскі манер.

Далей аўтар «Нарысаў» рэзюмуе: «Французская класічная трагедыя завяршае сабою вялікую паласу ў гісторыі еўрапейскага тэатра. Амаль два стагоддзі прыдворнай дваранскай культуры знаходзяць у ёй сваё найбольш глыбокае і дасканалае мастацкае афармленне».

Вялікі Гётэ, кіраўнік прыдворнага Веймарскага тэатра, быў фанатычна аддадзены антычнаму мастацтву і ўсяляк яго прапагандаваў. «Ён быў перакананы, што гэта мастацтва з'яўляецца адлюстраваннем самой прыроды, што антычныя статуі пабудаваны па яе вечных законах... Аўтар "Фаўста" патрабаваў, каб акцёры вывучалі антычныя статуі для таго, каб дасягнуць дасканаласці ў сваіх жэстах і рухах», — сцвярджае Пётр Коган.

Такім чынам, мы разумеем, што класічныя формы і прыёмы пабудовы драмы, выпрацаваныя вялікімі драматургамі антычнай эпохі, аказалі істотны ўплыў на развіццё заходнееўрапейскага тэатра, заклаўшы асновы драматургіі як самастойнага сцэнічнага жанру. І таму даводзіцца шкадаваць, што такі багаты пласт культуры, як антычная драма, не быў адлюстраваны ў кнізе «Нарысы па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра».

Таксама слаба закрануты такі важны этап развіцця тэатра, як *Comedia dell'arte*, прамога нашчадка старой культуры «відовішчаў і акцёрства». Аднак у главе «Буржуазная драма ў Італіі. Гальдоні» Коган адзначае: «Ён (Гальдоні. — **С. Ш.**) ператварыў старую камедыю імправізацыі, папулярную *Comedia dell'arte*, якая карысталася шырокім поспехам і ў XVIII стагоддзі, але ўжо не задавальняла павышаныя патрабаванні публікі». Распавядаючы пра творчасць Карла Гоцы, аўтар «Нарысаў» заўважае: «Нядзіўна, што Гоцы выступіў такім фанатычным абаронцам *Comedia dell'arte*. Яна была для яго адмаўленнем усякіх правілаў і сарамлівасці, найбольш яркім выразам індывідуальнага, нічым не абмежаванага натхнення... Вядома, што яна з'яўлялася любімым відовішчам не толькі вулічнага натоўпу, яна была жаданай госцяй у палацах князёў і вяльможаў. Менавіта гэтая акалічнасць выклікае нават сумнеў у народным паходжанні *Comedia dell'arte*, якая прадстаўляла сабою сапраўднае мастацтва, тонкае і ўдасканаленае, прычым выканаўцамі з'яўляліся высокія майстры». Між тым у тэатры *Comedia dell'arte* не толькі вытокі сучаснага акцёрскага мастацтва, але і ў значнай ступені перадумовы для росквіту еўрапейскай драматургіі XVII стагоддзя ў Італіі, Францыі, Англіі, Іспаніі.

У кнізе П. С. Когана недастаткова асветлены таксама пазнейшыя моманты ў гісторыі тэатра. З пункту гледжання сучаснага тэатразнаўства, у дадзенай працы маецца шэраг прабелаў. І яшчэ на адну асаблівасць «Нарысаў па гісторыі заходне-еўрапейскага тэатра» хацелася б звярнуць увагу. Чырвонай ніткай праз усё апавяданне праходзіць ідэя класавага прынцыпу ў падыходзе да мастацтва драмы. Такі звужаны і спрошчаны погляд на мастацтва наогул і тэатра ў прыватнасці можна, па ўсёй верагоднасці, аднесці не столькі да вернасці аўтара марксісцкім пастулатам, колькі да часу выхаду кнігі.

Тым не менш кніга П. С. Когана, гісторыка заходнееўрапейскай літаратуры і заходнееўрапейскага тэатра, уяўляе вялікую каштоўнасць як першая сур'ёзная спроба сістэматызацыі розных плыняў і кірункаў развіцця еўрапейскага тэатральнага мастацтва на працягу дваццаці стагоддзяў гісторыі і культуры Захаду.

**Сяргей ШАФАРЭНКА**

# ПЯЦЬСОТ, ПАМНОЖАНАЕ НА ТРЫ

**«На пачатку было слова...» Так называецца вялікі і шматгранны музычны культуралагічны праект, які будзе доўжыцца ўвесь 2017 год. Ён прысвечаны адразу тром значным датам: 500-годдзю кнігадрукавання, 500-годдзю выдання Бібліі на беларускай мове (што знакавая падзея для хрысціянскай краіны), а таксама 500-годдзю нямецкай і еўрапейскай Рэфармацыі. Дзякуючы ёй пачаліся ўсе культурныя і адукацыйныя працэсы, якія прывялі да з’яўлення кніг, школ, акадэмій, лічыць лаўрэат міжнародных конкурсаў, дырыжор, фагатыст, кіраўнік ансамбля «Вытокі» Аляксей Фралоў.**



*Ля ганаровай дошкі Францыску Скарыну ў Падуанскім універсітэце музыканты трыа «Вытокі» (Аляксей Фралоў, Ірына Аўдзеева, Сяргей Махаў).*

Першай маштабнай падзеяй культурнага праекта стане канцэртная праграма-прысвячэнне Марціну Лютэру і Францыску Скарыну, якая адбудзецца ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі 12 лютага. Пра тое, якія культурныя адкрыцці і ўражанні чакаюць публіку, распавёў аўтар праекта.

**— Чаму вы вырашылі звязаць у адным праекце тэму кнігадрукавання і Рэфармацыі?**

— Слова, надрукаванае для народа Еўропы і Беларусі, было пачаткам усяго працэсу Рэфармацыі і Рэнесансу, пачаткам змены сярэдняевечнага грамадства на сучасны лад, пачаткам новага ўсведамлення чалавека ў прасторы і ў часе. «На пачатку было слова...» — менавіта гэтыя першыя словы з Евангелля паводле Іаана ўзяты за назву невыпадкова. Адна з галоўных ідэй Рэфармацыі — прыход да Слова Божага як да крыніцы праўды пра шлях чалавека. Разважаннямі на гэтую тэму былі заклапочаны лепшыя розумы, найбольш адукаваныя людзі Еўропы таго часу. Яны асэнсавалі тое, што слова Божае вельмі важна ведаць кожнаму чалавеку не апасродкавана праз пераказы з царкоўнай кафедры, а мець яго дома на сваёй яснай, зразумелай мове. Таму нядзіўна, што як толькі з’явілася кнігадрукаванне, менавіта Біблія стала першай надрукаванай кнігай. Роўна 500 гадоў таму для хрысціянскай Беларусі пачалася новая эпоха: краіна атрымала Біблію на нацыянальнай мове. Разам з ёй многім людзям адкрылася свята Слова Божага, і праз яго пачала змяняцца ментальнасць. У беларускім тагачасным грамадстве пачалі дзейнічаць светлыя рэнесансныя працэсы. Публікацыя Бібліі на роднай мове стала каталізатарам усіх добрых змен. Свядомасць стала не сярэдняевечнай, людзі пачалі самі думаць, чытаць Біблію, аналізаваць яе, параўноўваць розныя погляды. Інтэлектуальны і адукацыйны ўзровень узрос фантастычна. Пераклад Бібліі сведчыць пра высокае цывілізацыйнае развіццё кожнага народа. Для беларусаў вельмі радасна ўсведамляць, што наш народ быў праз такую асобу, як Францішак Скарына, адзін з самых першых у Еўропе і ў свеце, хто асмеліўся зрабіць пераклад Бібліі на родную мову.

**— Як і калі ў вас узнікла ідэя праекта «На пачатку было Слова...»?**

— Ідэя ўзнікла два гады таму, калі мы адзначалі юбілей Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі. Тады мы зладзілі цэлы фестываль. Прыцягнулі да ўдзелу лепшых выканаўцаў краіны. Мелі кантакты з Польшчай і Літвой, якія таксама звязаны з Агінскім. Калі мы бачым постаці такога маштабу ў нашай гісторыі, то наша ўвага для іх зразумелая. Менавіта гэтыя асобы з’яўляюцца арыенцірамі для культуры сёння. Яны даюць натхненне і тэмы для разважанняў. Зараз мы робім маштабны гучны прект. У нас будзе шэраг прэзентацый у Нацыянальным мастацкім музеі. Летась мы распачалі цыкл канцэртаў «Прэзентацыя аднаго шэдэўра». Ключавой стане скарынаўская тэматыка з музыкай той эпохі. Дарэчы, ансамбль «Вытокі» зараз рыхтуе прыгожыя рэнесансныя касцюмы, каб максімальна стварыць антураж часу. Мы знайшлі нямала музыкі: многае ўжо было надрукавана і прадстаўлена грамадскасці, але знаходзяцца новыя забытыя артэфакты таго часу. Цікава ў адной праграме супаставіць і паглядзець, як гарманічна дапаўняюць адзін аднаго музычныя помнікі з нашай зямлі і помнікі з тых краін, дзе быў Скарына. Гэта перш за ўсё італьянская, чэшская і польская культуры.

**— Фактычна адкрыццём праекта стане канцэрт, які адбудзецца ў філармоніі. Што чакае публіку ў гэты вечар?**

— Праграма ўнікальная. Мы паспрабавалі ў межы аднаго канцэрта кампактна ўключыць цэлую панараму развіцця высокай музычнай культуры, якая звязана з Бібліяй, яе перакладам і кнігадрукаваннем. Мы прасочым эвалюцыю музычнага мастацтва ад простых, на першы погляд, музычных харалаў да высокіх узораў біблейскай музыкі Баха. Марцін Лютэр чуў простыя мелодыі, збіраў іх і прыстасоўваў да царкоўнай службы. Раней тэксты былі мудрагелістыя і не зусім зразумелыя. А тут з’яўляюцца простыя мелодыі, якія чапляюцца за слых з першых дзвюх нот, якія можа заспяваць не толькі вучоны манах, а кожны, хто прыйдзе ў царкву. Дзякуючы Марціну Лютэру гэтыя мелодыі пачалі ўводзіцца ў высокую царкоўную атмасферу. За гэтым адкрыццём падцягнуцца потым і іншыя канфесіі. Харалы XVI стагоддзя сталі асновай для ўсёй духоўнай музыкі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Духоўны пласт музыкі высокага барока ад Баха, Гендэля, Букстэхудэ заснавана на тых базісах, якія былі закладзены Марцінам Лютэрам. Кампазітары надавалі новыя сэнсы, выпрацоўвалі матывы. Нават у некалькіх нотах і музычных інтанацыях яны зашыфроўвалі багаслоўскія сэнсы і тэрміны. Напрыклад, у скрыжаваныя секунды ўкладвалі матыў крыжа. І чалавек, слухаючы, сапраўды неасэнсавана ловіць гэтую інтанацыю. У кампазітараў спалучалася рацыянальнае і эмацыянальнае. Яны былі падобныя да выдатных шахматыстаў і ў той жа час лірыкаў, філосафаў, тэолагаў. І гэта ўсё спалучалася ў партытурах.

**— У канцэрце возьмуць удзел і аркестр, і хор, і салісты. Сярод іх вядомыя беларускаму слухачу людзі, але ёсць і спецыяльна запрошаныя госці?**

— У гэтым праекце пагадзілася ўдзельнічаць унікальная асоба. Яна разам са мной будзе весці канцэрт. Гэта адзіная ў Беларусі жанчына-доктар сакральнай тэалогіі Ірына Дубянецкая. Яна чытае Біблію ў арыгінале, ведае дзясяткі моў, у тым ліку старажытных. Ірына ведае біблейскі кантэкст так, як, напэўна, ведаюць яшчэ ўсяго некалькі чалавек ва ўсім свеце. Выступяць падчас канцэрта Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Наталлі Міхайлавай, ансамбль салістаў «Вытокі» і Камерны аркестр «*Capella Academia*». Сярод салістаў — лаўрэат міжнародных конкурсаў, піяніст Юрый Бліноў, вядучыя салісты беларускай оперы Наталля Акініна і Дзмітрый Капілаў. У праграме прадстаўлены адкрыцці музыкі Рэнесансу і ранняга Барока, што прагучаць у Беларусі ўпершыню, а таксама самыя яркія фрагменты шэдэўраў Высокага Барока — Пасіёнаў паводле Мацвея і Яна, Месы сі-мінор вялікага Баха і араторыі «Месія» Гендэля.

**— «На пачатку было Слова...» складаецца са шматлікіх культурных падзей на працягу года. Якія найбольш яркія моманты праекта можаце адзначыць?**

— Мы плануем праграму канцэрта-прысвячэння Лютэру і Скарыну правезці і па іншых гарадах Беларусі. Напрыклад, прадставіць яе ў Брэсце, Полацку, Гродне. Наш ансамбль «Вытокі» рыхтуе шэраг праграм. Мы плануем распачаць новы цыкл-фестываль у Мірскім замку. Для нас гэтае месца цікавае таму, што менавіта Мірскі замак — самы яркі, маштабны і манументальны сведка тых падзей на тэрыторыі Беларусі. Ён — равеснік Скарыны і кнігадрукавання, перакладу беларускай Бібліі. Вядома, што ў 20-х гадах Скарына ў Вільні выдае «Малую падарожную кніжыцу». Ансамбль «Вытокі» плануе ў супрацоўніцтве з Белгазпрамбанкам шэраг праектаў, звязаных з прэзентацыяй «Малой падарожнай кніжыцы», якая з’яўляецца часткай карпаратыўнай калекцыі банка. Публічныя прэзентацыі каласальных дасягненняў беларускай культуры адбудуцца ў Беларусі і за мяжой. Постаць Скарыны можна ставіць у адзін шэраг з Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Марцінам Лютэрам, Жанам Кальвінам. Прэзентацыяй і папулярызацыяй беларускай культуры праз Скарыну мы сведчым пра высокі ўзровень нашай культуры і нашага народа.

**Юлія КАРДАШ**

# Выхаванне джазам

У 28 раз у сталіцы пройдуць вечары джаза. Аб’яднаныя адной назвай, канцэрты «Мінскага джаза-2017» раскрыюць музычныя таямніцы гэтага музычнага кірунку і пазнаёмяць з лепшымі джазавымі кампазіцыямі.

Музычны праект пачаўся 9 лютага «Вялікім джазам». Міхаіл Фінберг і Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі прапанавалі слухачам сустрэчу са сваім біг-бэндам. Дырыжор адзначае, што джаз — музыка інтэрнацыянальная, выхоўвае слухача. Са свайго боку, Фінберг і яго аркестр дапамагаюць публіцы атрымаць больш шырокае «выхаванне» джазам — яны выконваюць музыку розных краін, якая б не толькі павысіла прафесійны ўзровень аркестра, але і кругагляд цікаўнага слухача.

Хоць прафесійны джаз у Беларусі з’явіўся ўжо ў 1939-м, «Мінскі джаз» быў заснаваны ў 1989 годзе народным артыстам Беларусі Міхаілам Фінбергам. За гэтыя гады біг-бэнд паспеў даць больш за 80 джазавых канцэртаў — гэта толькі ў межах фестывалю!

Другі вечар джаза адбудзецца пад знакам «Мы з джаза» з удзелам замежных гасцей. 10 лютага на сцэне Клуба імя Ф. Э. Дзяржынскага выступяць госці з Масквы: народны артыст Расіі Анатоль Крол і яго калектыў.

Імя Крола значнае для расійскага джаза. Яшчэ ў 60-я гады артыст заснаваў джазавы аркестр пры Тульскай філармоніі, а праз 7 год Крол і яго музыкі ўзялі ўдзел у самай значнай джазавай падзеі тых часоў — міжнародным фестывалі джаза ў Таліне. Адну сцэну дзялілі паміж сабой музыканты з Еўропы і Амерыкі, сярод іх быў і ансамбль Крола. У Мінск завітае ансамбль Анатоля Крола «Мы з джаза», створаны ўсяго 16 гадоў таму. У рэпертуары калектыву — і аўтарская музыка артыста, і аранжыроўкі твораў сусветнага джаза. За 50 гадоў у джазе Крол навучыўся не толькі выдатнаму прафесійнаму майстэрству, але і «чытанню думак» свайго слухача, таму можна быць упэўненым у неверагоднасці вечара, праведзенага з Кролам і яго камандай.

Закрыццё музычнага праекта «Мінскі джаз» адбудзецца 11 лютага не менш насычанай праграмай. Міхаіл Фінберг і аркестр выступяць з канцэртнай праграмай, прысвечанай зоркам, якія любілі джаз. Сярод іх — вядомыя асобы з кіно, радыё і тэлебачання, знаёмыя кожнаму: Леанід Уцёсаў, Ала Пугачова, Клаўдыя Шульжэнка, Людміла Гурчанка, Ларыса Доліна, Раймонд Паўлс, Алег Лундстрэм.



*Госць фестывалю Анатоль Крол і яго аркестр.*

Сёлетні фестываль будзе доўжыцца 3 дні. За гэты час у слухачоў будзе магчымасць расквеціць будзённасць дзякуючы яркаму гучанню джазавай музыкі, віртуозным імправізацыям.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Жывапісны эфект віцебскай гравюры

**У XX стагоддзі Віцебск стаў не толькі цэнтрам развіцця авангарднага мастацтва, але і адыграў прыкметную ролю ў развіцці беларускага эстампа. Многія мастакі, якія атрымлівалі адукацыю на вельмі папулярным, асабліва ў савецкі час, мастацка-графічным факультэце ў Віцебску, вядомыя сваёй творчасцю ў розных кутках свету. У канцы студзеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Віцебская школа гравюры», дзе прадстаўлены творы лепшых віцебскіх мастакоў у тэхніках ксілаграфіі, лінарыту.**

У экспазіцыі больш за паўсотню твораў, якія ўпершыню прывезены ў сталіцу. Сярод іх — работы і родапачынальнікаў графічнай тэхнікі, і сучасных гравёраў. Так, напрыклад, частку экспазіцыі складаюць гравюры на дрэве (ксілаграфія) Саламона Юдовіна, Аляксандра Ахола-Вало, Зіновія Гарбаўца ды іншых. Прадстаўлены лінагравюры 1960 — 1980 гадоў вядомага беларускага майстра Рыгора Клікушына і некаторых яго вучняў — Мікалая Гугніна, Віктара Данілава, Вячаслава Шамшура.



Рыгор Клікушын
«Віцебскі краявід з Ратушай», 1965 г.

Рыгора Клікушына сябры і калегі называлі каралём шрыфтоў і графікі. Ён стварыў каля ста гравюр і сарака творчых малюнкаў. Мастаком афармлена больш за семдзесят кніг, у тым ліку Кандрата Крапівы, Канстанціна Паўстоўскага, Аляксандра Дзюма, Чарльза Дзікенса. Рыгор Клікушын — аўтар дзевяці кніг і вучэбных дапаможнікаў, прысвечаных мастацтву шрыфту. Асноўнай тэматыкай твораў быў Віцебск, які майстар вельмі любіў. Творца адлюстроўваў горад у розныя перыяды жыцця. Некаторыя краявіды ўнікальныя і не сустракаюцца ні на фота, ні ў дакументальнай хроніцы. Мастацтвазнаўцы адзначаюць: у Клікушына атрымлівалася спыніць час, звярнуць увагу на эстэтыку, культуру народа, якая выяўлялася ў чысціні і прыгажосці дарагога яму горада. Многія з краявідаў Віцебска гледачы могуць убачыць у экспазіцыі.

Мастак Вячаслаў Шамшур адзначае: асоба Рыгора Клікушына адыграла значную ролю ў творчасці вучняў майстра — ужо знакамітых беларускіх мастакоў. Рыгор Піліпавіч вучыў будучых аўтараў слухаць сэрца і рукі, якія падчас працы становяцца адным цэлым, вучыў з павагай ставіцца да мастацтва, роднай зямлі.

Аналізуючы прадстаўленыя на выстаўцы творы, заўважаеш, што ўсе яны чымсьці падобныя: графічныя лісты насычаны эмацыйнай выразнасцю, вытанчанымі лірычнымі і паэтычнымі матывамі. Праз іх мастакі выказваюць стаўленне да краіны, глыбіню задумы. У гравюрах віцебскіх мастакоў важная роля належыць рытмічнай арганізацыі кампазіцый, дзе валадараць жывапісныя эфекты. Пераважаюць чорныя і белыя колеры, гэта і ёсць традыцыйны падыход. Але час да часу некаторыя мастакі звяртаюцца да больш яркіх колераў, каб надаць творам экспрэсіўнасць.

Нягледзячы на тое, што віцебская школа гравюры дастаткова моцная, цікавасць да гэтага напрамку мастацтва губляецца, асабліва з камерцыйнага пункту гледжання. Аднак старэйшае пакаленне не апускае рукі і спрабуе зацікавіць студэнтаў мастацтвам графікі. Як адзначае Уладзімір Пракапцоў, Віцебская мастацкая школа заслугоўвае належнага асэнсавання і адзнакі. А лепей за моладзь гэтага не зробіць ніхто. Таму ў Віцебску плануюць больш графічных выставак, каб паказаць, як мясцовыя графікі глыбока адлюстроўваюць гісторыю і ў той жа час раскрываюць актуальныя для грамадства тэмы.

Куратар выстаўкі «Віцебская школа гравюры» Міхась Цыбульскі адзначае, што выстаўка ў Нацыянальным мастацкім музеі дапаможа аўтарам «паўночнай сталіцы» быць больш ацэненымі ў краіне, тым больш што лінарыт становіцца адной з актуальных тэхнік, якая развіваецца на прасторах Заходняй Еўропы. Аўтары спадзяюцца, што калектыўная экспазіцыя будзе штуршком наперад, каб рабіць і персанальныя выстаўкі мастакоў у розных гарадах Беларусі. Дарэчы, экспазіцыяй віцебскай гравюры Нацыянальны мастацкі музей адкрыў юбілейны год Марка Шагала.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Юрый Баранаў «Зімовая казка», 1990 г.*

## *Культурны ракурс*

**Вельмі люблю Асіповічы. Ды як інакш: гэта горад, дзе я жыву. Тут шмат прыгожых будынкаў і помнікаў. Але больш за ўсё мне даспадобы Свята-Крыжаўзвіжанская царква, якая, на мой погляд, з'яўляецца самым значным помнікам гісторыі і культуры нашага горада. Чаму? Бо ўсе дарогі вядуць нас да храма, да Бога. У гэтым месцы чалавек застаецца сам-насам з думкамі, з Усявышнім, каб задумацца пра сваё месца ў жыцці…**

**Наш храм незвычайны: яго пабудавалі з дрэва ў 1826 годзе ў адной з вёсак Асіповіцкага раёна. Свята-Крыжаўзвіжанская царква лічыцца помнікам народнага дойлідства. Майстры ўклалі ў яе часцінку душы. Аплацію будаўніцтва граф Завіша.**

**Пасля Другой сусветнай вайны царкву разабралі і перавезлі ў Асіповічы. З тых часоў кожныя выходныя ідуць у ёй службы. Нават за савецкім часам у храме збіраліся вернікі. Менавіта ў гэтым святым месцы я калісьці хрысціла сына…**

**Людміла ГАНЧАР**



***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
9.02.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1620.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 559

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686